ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 6 (2585)
11 лютага 1972 г.
ПЯТНІЦА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



**ПАЗАЎЧОРА да беларускіх літаратараў прыехалі дарагія госці — старшыня калгаса імя Гастэлы Мінскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы В. Шыманскі, сакратар партыйнай арганізацыі калгаса В. Ціхановіч і загадчыца фермы, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР М. Гладкая.**

**Яны расказалі пра сваю гаспадарку, адказалі на шматлікія пытанні. Пісьменнікі падарылі гасцям свае кнігі з аўтографамі.**

**На здымку нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука — адзін з момантаў сустрэчы. Злева направа — І. Шамякін, М. Гладкая, А. Кулакоўскі, В. Шыманскі, В. Ціхановіч.**

Справаздачу аб сустрэчы чытайце на старонцы 3.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

50 ГОД УТВАРЭННЯ СССР

# САМАЕ МАСАВАЕ МАСТАЦТВА

ГОД У ГОД расце і сталее самадзейнае мастацтва Беларусі. Аматарскія калектывы рэспублікі аб'ядноўваюць сёння 360 тысяч чалавек, у тым ліку на вёсцы — 200 тысяч. Творчае жыццё ў калектывах актывізуецца. Да вялікага свята — 50-годдзя ўтварэння СССР — спевакі, танцоры, музыканты, удзельнікі драматычных калектываў рыхтуюць новыя канцэртныя праграмы. Спаборніцтву ў многім спрыяе аб'яўлены ў рэспубліцы фестываль самадзейнага мастацтва.

— Наша мэта, — гаворыць дырэктар Рэспубліканскага дома народнай творчасці Ганна Талчынская, — запаліць творчы агеньчык літаральна ў **кожным** самадзейным калектыве і дамагчыся таго, каб ён ніколі не згасаў. Каб хоры, ансамблі, танцавальныя, музычныя і драматычныя калектывы, агітбрыгады радавалі гледачоў сваімі поспехамі, неслі працоўным горада і вёскі лепшыя здабыткі савецкай культуры. Мы разумеем, што ёсць яшчэ на гэтым шляху нямала цяжкасцей, якія трэба настойліва пераадольваць.

Вялікая патрэба ў рэпертуары. Рэспубліканскі дом народнай творчасці аб'явіў сёлета конкурсы на лепшую сучасную харавую і сольную песню; на лепшы сучасны беларускі танец — масавы, парны, групавы і сцэнічную рэдакцыю (апрацоўку) народнага танца; на лепшую аднаактовую п'есу. Разлічваем на тое, што ў гэтых конкурсах прымуць удзел прафесійныя і самадзейныя кампазітары, балетмайстры прафесійных і аматарскіх калектываў, пісьменнікі і пачаткоўцы — члены літаратурных аб'яднанняў і гурткоў. Спадзяёмся, што журы конкурсаў атрымаюць многа новых цікавых твораў, якія ўславяць непарушную дружбу народаў Савецкай дзяржавы, людзей працы, герояў пяцігодкі, адлюструюць актыўны ўдзел савецкіх людзей у пабудове камуністычнага грамадства. Творы, прысланыя на конкурс і адзначаныя журы, будуць набыты Рэспубліканскім домам народнай творчасці і папоўняць рэпертуар самадзейных калектываў.

Упершыню наш дом народнай творчасці разам з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР аб'явіў конкурс па зборы беларускай народнай творчасці. Яго мэта — выявіць і сабраць лепшыя жамчужыны народных песень, казак, легенд, танцаў, гульняў і апісанняў народных абрадаў; твораў народна-прыкладнога мастацтва і промыслаў.

Лепшыя збіральнікі народнай творчасці будуць узнагароджаны дыпломамі і граматамі, а найбольш цікавыя вусна-паэтычныя, музычныя і харэаграфічныя творы мяркуецца выдаць у зборніках.

— Гаворка пра творчыя спаборніцтвы, — працягвае Ганна Мікітаўна, — на гэтым не скончана. Аб'яўлены яшчэ два конкурсы, таксама прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР: на лепшы фотаздымак, серыю іх, кароткаметражны фільм і на лепшы твор (выраб) народных майстроў і самадзейных мастакоў. Абодва гэтыя конкурсы-агляды праводзяцца ў тры туры: у раёнах і гарадах (І тур), абласцях (ІІ тур) і рэспубліканскі — у Мінску. Будуць наладжваць фотавыстаўкі і прагляды аматарскіх фільмаў. Зразумела, што ў гэтых работах фота- і кінааматары павінны адлюстраваць стваральную працу народа па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС і XXVII з'езда КПБ, герояў дзевятай пяцігодкі, непарушнае адзінства і дружбу народаў нашай краіны, прыгажосць прыроды роднага краю, пераўтворанай савецкім чалавекам.

Цікавым абяцае быць і конкурс-агляд работ народных умельцаў і самадзейных мастакоў. Выстаўкі гэтыя заўсёды карыстаюцца вялікім поспехам і ўвагай шырокай грамадскасці, бо раскрываюць няўтольную прагу ўмельцаў, мастакоў-аматараў, майстрых ткацтва і вышыўкі да творчасці, багацце іх фантазіі, майстэрства і густ.

Каб шырэй прапагандаваць іх творчасць, мяркуем наладжваць і персанальныя выстаўкі самадзейных мастакоў і выстаўкі работ народных умельцаў адной вёскі ці скажам сельсавета і г. д. Адна такая выстаўка будзе экспанавацца ў Мінску.

Не трэба многа даводзіць, якой вялікай папулярнасцю карыстаюцца ў працоўных выступленні агітацыйна-мастацкіх брыгад. Гледачоў захапляюць надзённасць і баявітасць іх рэпертуару, умельства ў мастацкай форме адлюстраваць працоўныя будні калгаса, прадпрыемства, сказаць добрае трапнае слова пра перадавікоў вытворчасці. Міністэрства культуры БССР, ЦК ЛКСМБ, рэдакцыя «Сельской газеты» і Рэспубліканскі дом народнай творчасці аб'явілі конкурс на лепшы сцэнарый для сельскіх агітацыйна-мастацкіх брыгад. Лепшыя сцэнарыі будуць апублікаваны на старонках газеты і набыты домам творчасці для распаўсюджвання.

Сёння ў Магілёве заканчвае сваю работу рэспубліканскі семінар кіраўнікоў агітбрыгад і метадыстаў абласных дамоў народнай творчасці. На працягу чатырох дзён вывучаўся вопыт народнага агіттэатра «Усмешка» — яго работа над рэпертуарам, пытанні рэжысуры і інш. Удзельнікі семінара паглядзелі спектаклі гэтага цікавага калектыву і яго студыі, пабывалі на рэпетыцыях.

Наогул на 1972 г. запланавана правесці семінары кіраўнікоў калектываў усіх жанраў самадзейнага мастацтва.

Сёлета выйдзе ў свет 26 назваў розных выданняў у дапамогу мастацкай самадзейнасці. Мяркуем выдаць зборнік «Пад сцягам Кастрычніка», у які ўключаны новыя песні беларускіх кампазітараў аб Леніне, Радзіме, партыі, дружбе народаў, «Песні для хору з суправаджэннем», «Эстрадныя песні», «Песні самадзейных кампазітараў» і інш. Падрыхтаваны і здадзены ў друк «Рэпертуарна-метадычны зборнік», прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР.

У плане нашай работы — у бліжэйшы час адкрыць завочную двухгадовую школу кіраўнікоў гурткоў і студый бальнага танца. Два разы на год завочнікі будуць прыязджаць у Мінск на 10—15 дзён, каб сустрэцца з вядомымі харэографамі, развучыць пад іх кіраўніцтвам найбольш папулярныя бальныя танцы.

Год 1972, год паглыбленага вывучэння работы самадзейных калектываў рэспублікі. Пачынаем мы гэтую справу з народных калектываў.

Словам, планы вялікія, спраў надзвычай многа і ўсе яны скіраваны на тое, каб яшчэ больш расквітнела самадзейнае мастацтва Беларусі.

# АГЛЯДЫ, СЕМІНАРЫ, СУСТРЭЧЫ

ПРА ПЛАНЫ работы Беларускага тэатральнага аб'яднання на юбілейны год нам паведаміў намеснік сакратара партбюро БТА, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ул. Стэльмах.

— Гэтай вялікай падзеі будзе прысвечаны рэспубліканскі агляд лепшых спектакляў. Пераможцы агляду будуць прадстаўлены на Усесаюзным фестывалі драматычных і музычных тэатраў. Фестываль раскажа аб непарушнай дружбе нашых народаў, росквіце братніх культур.

Мы плануем арганізаваць творчыя сустрэчы дзеячоў мастацтва з працаўнікамі фабрык і заводаў, новабудоўляў, сельскімі гледачамі, вучонымі, воінамі Савецкай Арміі, моладдзю.

БТА прыме ўдзел у праглядах і абмеркаваннях спектакляў прафесійных і народных тэатраў, падрыхтаваных да юбілейнай даты.

Разам з Міністэрствам культуры правядзём творчыя семінары рэжысёраў, дырэктараў, мастакоў тэатраў. У рэспубліканскім Доме мастацтваў будзе наладжана выстаўка, прысвечаная творчым сувязям беларускіх тэатраў з тэатрамі братніх рэспублік, а таксама вечар творчай дружбы з удзелам майстроў сцэны братніх рэспублік. Нашы дзеячы мастацтваў прымуць удзел у вечарах, прысвечаных Беларусі, якія адбудуцца ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Ташкенце і іншых гарадах.

Разам з Саюзам пісьменнікаў БССР, Міністэрствам культуры Беларусі БТА правядзе канферэнцыю на тэму: «Творчыя сувязі драматурга з тэатрам у працэсе стварэння п'есы і спектакля».

Адбудуцца выязныя пасяджэнні прэзідыума праўлення БТА ў Брэсцкім тэатры імя ЛКСМБ, Віцебскім тэатры імя Я. Коласа і Гомельскім драматычным тэатры.

У тэатральна - мастацкім інстытуце адбудзецца нарада на тэму: «Выхаванне творчых кадраў у інстытуце і тэатральным калектыве. У 1972 г. будуць падведзены вынікі рэспубліканскага агляду творчай моладзі, нашы лектары рыхтуюць даклады на тэмы: «Ленінская нацыянальная палітыка і росквіт мастацтва братніх народаў», «Тэатры БССР у новым сезоне», «Народныя паэты БССР— Янка Купала, Якуб Колас і тэатральнае мастацтва» і інш.

Будзе праведзен рэспубліканскі семінар тэатральных крытыкаў. У гэтым годзе павінен выйсці ў свет альбом «Беларускі савецкі тэатр».

# З ВІЗІТАМ У АДКАЗ

**Сем дзён у снежні мінулага года гасцявала на літоўскай зямлі дэлегацыя грамадскасці Маладзечна. Днямі сюды з візітам у адказ прыехалі госці з Літвы. Яны знаёмяць маладзечанцаў з мастацтвам рэспублікі.**

**У Доме народнай творчасці наладжана выстаўка народных умельцаў. Тут вышыўка, разьба па дрэве, ганчарнае мастацтва, жывапіс. На станкабудаўнічым заводзе і на фабрыцы «Камсамолка» выступіць вясковая капэла Нававільненскага дома культуры. У гарадскім доме культуры з маленькімі слухачамі сустрэнецца казачнік Бронюс Кіселюс. Тэатральны калектыў літоўскага завода радыёкампанентаў пакажа п'есу «Дон-Жуан». У доме культуры трэста «Маладзечнасельбуд» адкрыецца фотавыстаўка «Вільнюс сёння».**

**У гарадскіх клубах і кінатэатрах наладжаны дні літоўскага кіно. Тут ідуць фільмы «Камень на камень», «Дзяўчынка і рэха», «Ніхто не хацеў паміраць», «Лесвіца ў неба» і іншыя.**

**На гэтым жа тыдні літоўскія госці пабывалі на цэнтральнай сядзібе калгаса «Спадарожнік». У гарадскім доме культуры адбудзецца заключны канцэрт самадзейных артыстаў Нававільненскага раёна Літоўскай ССР.**

**Гэта адна з першых сустрэч суседзяў, прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР.**

СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# НІКОЛІ НЕ ПОЗНА ВУЧЫЦЦА ВЕТЛІВАСЦІ

**Пачнем з канкрэтнага прыкладу. Украінскі драматург, чалавек, які ў свой час супрацоўнічаў з рэжысёрам М. Міцкевічам, паслаў п'есу пра Лесю Украінку ў адзін з тэатраў Беларусі. Па-першае, думаў ён, набліжаецца 100-гадовы юбілей славутай паэтэсы і для любога тэатра мае значэнне сцэнічны твор пра яе жыццё і творчасць. Па-другое, на Беларусі Леся Украінка перажыла ўзрушэнне, якое можа быць кульмінацыяй сапраўднай драмы, — сустрэчы з вядомым дзеячом рэвалюцыйнага руху С. Мяржынскім, яго смерць... Па-трэцяе, паўторым, гэты пісьменнік быў асабіста знаёмы з прадстаўніком коласаўцаў, сябраваў, зрэшты, проста любіць тэатр у горадзе над Заходняй Дзвіной.**

**Прайшоў год. Адсвяткаваны быў юбілей Лесі Украінкі... З тэатра няма нават паведамлення аб тым, што п'есу такую атрымалі, што яе прачыталі, што яна не будзе пастаўлена па такіх і такіх прычынах. У словах нашага ўкраінскага сябра адчуваеш зразумелую горыч: паштоўку маглі б з Віцебска паслаць даўно. Маўляў, атрымалі, прачыталі, але...**

**Хаця б такі адказ!**

**Што за дзіўная практыка: маўчаць, калі да цябе звярнуўся літаратар. З мастацкім творам. З надзеямі і сумненнямі. Чакаючы шчырага слова ў адказ. Ну, што ж, бывае, ты абавязаны сказаць: не, п'еса вам не ўдалася, у нашым рэпертуары няма месца для яе, вы спазніліся... Штосьці сказаць трэба!**

**Нічога не сказана. Маўчанне.**

**Няўжо ў наш час ёсць патрэба нагадваць, што такія адносіны нельга лічыць прыстойнымі. І хай потым галоўныя і чарговыя рэжысёры клянуцца, што радуюцца любой навінцы ў драматургіі, верыць ім цяжка. Цяжка, бо чытаюць яны далёка не ўсё, што атрымліваюць ад пісьменнікаў. Калі яшчэ ў пісьменніка гучнае імя, тады ён, бадай, атрымае адказ тэатра. А няма такога імя — чакай...**

**І—чакаюць.**

**Тым часам, скажам шчыра, тэатры проста губляюць п'есы ў архівах. І тое, што аўтар не атрымаў адказу, бывае, тлумачыцца вельмі проста: тэксту ў тэатры няма, хоць усе ведаюць, што калісьці пошта прыносіла яго. Хто згубіў? Дарэмнае пытанне — п'есу можа «схапіць» і рэжысёр, спадзеючыся, што ў тэатр «бусел» прынёс шэдэўр, і памочнік галоўнага рэжысёра, якому па пасадзе належыць прымаць новыя драматургічныя творы, і акцёр, для якога заўсёды ёсць нешта прывабнае ў рукапісе. Спытайце, калі ласка, у дырэкцыі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра — яны вам скажуць, што такі выпадак быў у іх.**

**На кім адказнасць? Перш-наперш, зразумела, на літаратурнай частцы. Чалавек, якому даручана займацца сувязямі тэатра з драматургамі, нясе першую адказнасць за тое, як такія сувязі наладжваюцца. Давайце больш уважліва паглядзім на становішча такога чалавека. У гэтым сезоне тройчы мы чулі пра тое, што тэатры ствараюць інсцэніроўкі па рамане «Снежныя зімы» І. Шамякіна. Для коласаўцаў яе напісаў памочнік галоўнага рэжысёра гэтага тэатра Ул. Ганчароў. Акадэмічнаму тэатру імя Я. Купалы адрасуе пераклад рамана на сцэнічную мову рэжысёр гэтага тэатра Б. Луцэнка. Тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі заказаў інсцэніроўку памочніку галоўнага рэжысёра Р. Бакіевічу. Кожны з іх напісаў, прынамсі, першы варыянт п'есы паводле рамана. Падкрэслім, што ўсе яны — штатныя супрацоўнікі тэатраў. І што ж! Думаеце, ведаюць яны, калі і хто будзе ставіць падрыхтаваныя імі інсцэніроўкі рамана! Лічыце, яны ўпэўнены, што дасягнулі мэты, пастаўленай перад імі творчымі калектывамі і рэжысурай! Не, не ведаюць. І тут усё застаецца ў плане, як кажуць, меркаванняў і «пражэктаў»: як паставіцца да інсцэніроўкі раманіст, што скажа мастацкі савет, ці апраўдана мець некалькі інсцэніровак аднаго і таго ж рамана...**

**А калі да напісанага супрацоўнікам тэатра такое стаўленне, то што ж гаварыць пра рукапіс пачаткоўца! Хутчэй за ўсё яму паведамяць, што п'еса пакуль недасканалая, што яна патрабуе дапрацоўкі. І гэта будзе правільна! Амаль усе п'есы цяпер, набываючы сталую прапіску ў тым або іншым калектыве, абавязкова набываюць і новую літаратурную рэдакцыю, драматургічныя абрысы.**

Ды толькі, сказаўшы дзеля прыстойнасці дзяжурнае «патрабуе дапрацоўкі» і потым з лёгкай душой вяртаючы рукапіс аўтару, ці не зробім мы памылкі? Прыгадаем, што першы варыянт «Канстанціна Заслонава» або дэбют маладога аўтара «На досвітку» былі вельмі ж далёкія ад дасканаласці. Але ўявім на хвіліну, што загадчык літаратурнай часткі Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы тады адказаў А. Маўзону або А. Макаёнку стэрэатыпным «не дасканала», — і, мабыць, беларуская літаратура не мела б цікавых і арыгінальных драматургаў. Варта больш уважліва перачытваць пошту тэатра. Шукаючы рэпертуар, тэатры часам самі выпускаюць з-пад увагі тое, што заслугоўвае ўвагі па самым вялікім рахунку або мае патэнцыю да развіцця.

**...Ты атрымаў мастацкі твор. У рукапісе. Прачытай яго ўважліва. Узваж. Абдумай. Магчыма, тое, аб чым ты марыў і на што спадзяваўся, — тут. Магчыма, і не так... Толькі адкажы. Абавязкова адкажы! Бо за рукапісам таксама стаіць чалавек, натура творчая. І ён чакае.**

# «МОЖА ХТО НАТХНІЦЦА І НА КНІЖКУ...»

СУСТРАКАЮЦЦА ХЛЕБАРОБЫ І ПІСЬМЕННІКІ

— Больш чым паўтары гадзіны Васіль Паўлавіч адказвае на нашы пытанні, мо дадзім яму трохі адпачыць? — спытаў прысутных Іван Пятровіч Шамякін.

Што і казаць, нагрузка госцю ў гэты вечар выпала немалая. Аўдыторыя сабралася цікаўная, якой усё хацелася ведаць да дробязей. Ды і сам госць сваім расказам «падаграваў» гэтую цікавасць. А расказаць яму было пра што.

Недзе з канца саракавых гадоў узышла ўжо зорка калгаса імя Гастэлы, што пад самым Мінскам. Сёння гэта зорка, як кажуць, першай велічыні. Калгас славіцца на ўсю Беларусь сваімі ўраджаямі, прадукцыйнасцю жывёлы, дабрабытам хлебаробаў.

У сваім расказе старшыня калгаса, Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Паўлавіч Шыманскі называў шмат лічбаў, і кожная з іх уражвала, кожная паказвала, якія неабмежаваныя магчымасці тоіць у сабе калектыўная гаспадарка.

Помніцца, гадоў сем-восем таму ў газетах, на розных нарадах хвалілі гастэлаўцаў за нябачаны ў той час ураджай—20—22 цэнтнеры збожжа з гектара, 150 цэнтнераў бульбы.

Зараз тут збіраюць з кожнага гектара больш чым па 40 цэнтнераў збожжа і 250 — бульбы.

Шкада, што ў нас не заведзены парадак пісаць на бутэльках з малаком, з якой яно гаспадаркі (маюць жа многія калгасы і саўгасы ў горадзе свае фірменныя магазіны, дзе гандлююць гароднінай і садавінай), тады б на большасці бутэлек стаяла слова «Гастэла» (калгас прадае каля 4 500 тон малака). Мінчане б тады даведаліся, і якое яно смачнае (на малакапрыёмны пункт гастэлаўцы прывозяць ледзь не сырадой — праз гадзіну пасля дойкі з сярэдняй тлустасцю 3,5 працэнта).

Некалі ў нас быў вельмі модны выраз — «фабрыка малака», «фабрыка мяса». Так пісалі пра гаспадаркі, дзе атрымліваюць шмат прадукцыі, і толькі В. Шыманскі такіх слоў не ўжываў, але вось дзе сапраўды фабрыка. Скажам, да малака тут не дакранаецца рука чалавека. Машынай доіцца, і проста ад каровы, па трубаправодзе ідзе ў танк, дзе ахалоджваецца, пасля чаго перапампоўваецца ў малакавоз, які вязе прадукт у горад.

Механізацыя і рабочая сіла на вёсцы — гэтыя пытанні сёння хвалююць і эканамістаў, і сацыёлагаў. Не абышлі іх і на сустрэчы. Тым больш, што калгас прыгарадны, рабочых рук не густа — горад адбірае. (Васіль Паўлавіч расказаў, што на тэрыторыі калгаса жыве 10 тысяч чалавек, з іх у гаспадарцы працуе толькі 500). Выручае механізацыя. І тут не абысціся без лічбаў. У калгасе сёння ёсць 53 трактары, 49 аўтамашын, 20 збожжавых камбайнаў (больш чым некалі ў МТС, якая абслугоўвала гэты раён).

Пры такім узроўні механізацыі (збажыну тут убіраюць за 10 дзён) калгас, натуральна, не баіцца адліву рабочых рук.

Толькі што выйшла пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР аб будаўніцтве на вёсцы, і многіх вельмі цікавіць думка на гэты кошт старшыні калгаса. Як будаваць? Ці каб гэта была поўная імітацыя горада, ці ўсё ж каб вёска заставалася вёскай?

Васіль Паўлавіч лічыць, што ў вялікім шматпавярховым доме не кожная сялянская сям'я згодзіцца сёння жыць. Бо з рахунку не скінеш гаспадарку — хатнюю жывёлу, птушку і г. д. Так што лепей невялікія адна- ці двухкватэрныя дамы ў адзін-два паверхі. Ды каб недалёка быў і хлеў і тыя нейкія грады.

— Адно толькі ясна,—гаворыць старшыня, — людзі хочуць мець усе камунальныя выгоды, як у горадзе,—газ, халодную і гарачую ваду, каналізацыю. Гэта галоўнае, у чым вяскоўцы зайздросцяць гараджанам. Ці прыйдзе ўсё гэта да нас? Абавязкова. Хаця ёсць тут пэўныя складанасці. У нас, напрыклад, 11 вёсак. Паспрабуй усюды пабудуй камунікацыі. Таму вырашылі ў далейшым развіваць толькі тры населеныя пункты. Але тут ужо будзе ўсё.

Многія з прысутных цікавяцца зменамі ў культурным, духоўным жыцці вёскі.

Другі госць — загадчыца фермы, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Марыя Васілеўна Гладкая расказала, што калі іх хор даярак выступаў на раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці (харысткі былі апрануты ў беленькія халаты), дык многія пыталіся, ці не медработнікі гэта.

— Павысілася вельмі матэрыяльная культура, — гаворыць Марыя Васілеўна. — Усе ведаюць смак і на імпартную мэблю, і на імпартныя кофтачкі, добры абутак. Грошы ў людзей ёсць — даярка ў нас зарабляе ў месяц недзе 200—220 рублёў. Бяда толькі, што тавараў малавата. Да таго ж нашы гандлёвыя арганізацыі часам жывуць старымі ўяўленнямі аб вёсцы. Маўляў, тут усё з'ядуць. Што не пайшло ў горадзе, на табе, вёска. Вось і нядаўна прыязджала да нас аўталаўка з абуткам. Дык мы яе адправілі — такі нямодны абутак нам не патрэбны.

— Не, што і казаць, — гаворыць М. Гладкая, — іншае жыццё настала. На ферме ў нас чысціня, даяркі ў белых халаціках, ёсць душы, пакоі адпачынку. Вось вы ж былі ў нас, — звяртаецца яна да Піліпа Пестрака, — спадабалася?

— Я быў у вялікім захапленні, — адказвае Піліп Сямёнавіч.

Пра пастаноўку ідэалагічнай работы ў калгасе расказаў сакратар партыйнай арганізацыі Віктар Іосіфавіч Ціхановіч.

Некалькі гадзін працягвалася гэтая цікавая сустрэча.

— А лепш за ўсё,—сказаў Васіль Паўлавіч Шыманскі, — прыязджайце да нас самі, паглядзіце ўсё на свае вочы. Можа хто натхніцца і на кніжку. Будзем вельмі рады.

У заканчэнне вечара былі паказаны два дакументальныя фільмы, прысвечаныя калгасу імя Гастэлы, — «Ураджай» і «Пастух».

**М. ГАРОХАЎ.**

## НАВАСЕЛЛІ

У мінулым годзе перад хлебаробамі многіх гаспадарак Глыбоцкага раёна гасцінна расчынілі дзверы новыя дамы культуры і клубы.

Першымі справілі наваселле ў прыгожым двухпавярховым сельскім Палацы культуры хлебаробы калгаса імя Дзімітрава. Выдатны будынак Дома культуры з глядзельнай залай на 300 месц узведзены ў калгасе імя Мічурына. Пачалі працаваць новыя клубы ў калгасах «Перамога», імя Калініна. У калгасе «XXII партз'езд», саўгасе «Азярцы» адкрыліся культурна-асветныя цэнтры, у пасёлку Падсвілле — дзіцячая музычная школа, а ў раённым цэнтры — краязнаўчы музей на грамадскіх пачатках.

К канцу пяцігодкі ў сёлах раёна будзе пабудавана чатыры сельскія палацы культуры, 6 калгасных і 7 брыгадных клубаў. Папоўніцца і атрад работнікаў культасветустаноў. У вну і тэхнікумах вучыцца амаль сто юнакоў і дзяўчат з Глыбоччыны.

Калгасы і саўгасы раёна выдаткоўваюць вялікія сродкі на набыццё сучаснай мэблі для клубаў, музычных інструментаў, касцюмаў для самадзейных артыстаў.

**В. РАБЦАЎ.**

## У СУЗОР'І РЭСПУБЛІК САВЕЦКІХ

Гомельскім ГК КПБ, гарадской арганізацыяй таварыства «Веды», праўленнем Палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна пры ўдзеле Гомельскай абласной філармоніі выдадзен абанемент «Юбілейныя народныя чытанні» пад дэвізам «У сузор'і рэспублік савецкіх».

Лектары таварыства «Веды» расказваюць аб грандыёзных пераўтварэннях ва ўсіх галінах матэрыяльнага і духоўнага жыцця савецкіх народаў, трыумфе ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Ужо адбыліся чытанні, прысвечаныя РСФСР, Украінскай і Узбекскай саюзным рэспублікам.

20 студзеня ў Гомелі праводзілася святкаванне Дня Савецкага Казахстана. У госці да гамяльчан прыехаў саліст Казахскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя Абая народны артыст СССР Ермек Серкебаеў. У канцэрце былі выкананы творы казахскіх кампазітараў, творы рускай класікі, рускія народныя і сучасныя песні.

**Л. ЯГОРАВА.**

# ЭКЗАМЕН НА СТАЛАСЦЬ

ВЫНІКІ РЭСПУБЛІКАНСКАГА КОНКУРСУ МАЛАДЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ

ДВА ТЫДНІ ў Мінску праходзіў конкурс маладых музыкантаў, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. У ім удзельнічала 49 чалавек — піяністаў, скрыпачоў, віяланчэлістаў, спевакоў. І вось аўтарытэтнае журы падвяло вынікі.

Найбольш удала выступілі піяністы. Перамаглі самыя маладыя — вучні спецыяльнай музычнай школы-адзінаццацігодкі, выхаванцы педагога І. Цвятаевай. Дыплом першай ступені атрымаў І. Алоўнікаў, другой — А. Кузьмін, заахвочвальны дыплом — М. Мендзялеўская. Заахвочвальным дыпломам узнагароджаны таксама студэнт IV курса кансерваторыі Б. Спектар (педагог Р. Шаршэўскі).

— Фінал конкурсу быў прынцыпова новай і рашаючай ступенню для яго ўдзельнікаў, — гаворыць старшыня журы конкурсу піяністаў прафесар Маскоўскай кансерваторыі Я. Мільштэйн. — Тут музыканты выступалі разам з аркестрам і, такім чынам, праходзілі самую суровую і дасканалую праверку на артыстычную сталасць. Вельмі добрае ўражанне пакідаюць Ігар Алоўнікаў і Аляксандр Кузьмін, якія выконвалі Першы канцэрт Пракоф'ева і Другі канцэрт Сен-Санса. Добрай тэхнікай, культурай гуку, эмацыянальнасцю вызначаецца і выкананне ўладальнікаў заахвочвальных дыпломаў. Гэта, зразумела, не азначае, што маладыя музыканты ўжо дасягнулі дасканаласці. Гэта азначае толькі, што яны ўзялі добры разгон для ўзлёту.

Выступаючы ў фінале з аркестрам, складаны экзамен праходзілі скрыпачы і віяланчэлісты. Дыплом першай ступені не быў прысуджаны нікому, уладальнікам дыплома другой ступені стаў выпускнік кансерваторыі Ю. Ільяшоў (педагог М. Гальдштэйн), трэцяй — студэнтка А. Грынштэйн (педагог В. Крамарава) і Г. Фукс, вучань музычнай адзінаццацігодкі (педагог В. Гольдфельд). Заахвочвальнымі дыпломамі ўзнагароджаны студэнты кансерваторыі Р. Дабржынец і Т. Шпак (скрыпка), Т. Працько і Р. Гольдберг (віяланчэль).

— Менавіта заключны тур дае магчымасць меркаваць пра здольнасці і маштаб дараванння ўдзельнікаў конкурсу, — сказала старшыня журы гэтага конкурсу дацэнт Маскоўскай кансерваторыі Т. Гайдамовіч. — Выконваючы канцэрт Шастаковіча, Юлій Ільяшоў парадаваў глыбокім разуменнем музыкі Шастаковіча, беражлівымі адносінамі да аўтарскай задумы, імкненнем данесці да слухачоў ідэю твора. Ільяшоў прадэманстраваў таксама і сваё ўменне трымацца на сцэне, не разгубіцца ў выпадку якой-небудзь непрыемнай нечаканасці. Так, калі ў яго раптоўна лопнула на скрыпцы струна, ён імгненна змяніў сваю скрыпку на інструмент аднаго з аркестрантаў і працягваў выступленне. Гэта таксама важная якасць для будучага канцэртанта.

Крыху расчараваў аматараў музыкі конкурс вакалістаў. Тут ніхто не быў удастоены дыплома першай і другой ступені. Лепшай была студэнтка педагога М. Людвіг Ніна Казлова, якая атрымала дыплом трэцяй ступені. Заахвочвальныя дыпломы ў Я. Пятрова і І. Краснадубскага.

Наперадзе — занальны конкурс у Вільнюсе, дзе будуць дэманстраваць сваё майстэрства маладыя музыканты Прыбалтыкі, Беларусі і Малдавіі.

**А. ПАНКРАТАВА.**



Ігар Алоўнікаў.



Аляксандра Грынштэйн.



Ніна Казлова.



Аляксандр Кузьмін.



Юлій Ільяшоў.



Генрых Фукс.

Фота Ул. КРУКА.



Ідзе прэс-канферэнцыя.

# ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ВЯЛІКІМ ТЭАТРЫ ОПЕРЫ І БАЛЕТА БССР

ВЯДУЧЫ музычны тэатр рэспублікі назапасіў багаты вопыт і мае свае творчыя традыцыі. Тут упершыню гучалі і гучаць лепшыя старонкі арыгінальнай музычнай літаратуры — оперныя і балетныя творы беларускіх кампазітараў, выконваюцца класічныя ўзоры, гартаюцца партытуры, аўтарамі якіх з'яўляюцца прадстаўнікі братніх народаў. Да велічнага гмаху на плошчы імя Парыжскай камуны штовечар ідуць заўзятыя меламаны і моладзь, якая адкрывае сабе хараство харэаграфіі і вакалу ўпершыню.

Чым жыве трупа тэатра цяпер? Што хвалюе рэжысуру, салістаў, мастакоў, дырыжораў, артыстаў хору і міманса? Якія навінкі чакаюць нашу грамадскасць на славутай сцэне?

Пра ўсё гэта ішла зацікаўленая і шчырая гаворка на прэс-канферэнцыі, скліканай кіраўніцтвам тэатра ў мінулы панядзелак. Па сутнасці, адбыўся абмен думкамі пра сённяшні дзень і перспектывы творчага жыцця тэатра.

Дырэктар М. Шаўчук, галоўны рэжысёр А. Дадзішкіліяні, галоўны мастак Я. Чамадураў, рэжысёр С. Штэйн у сваіх выступленнях далі своеасаблівы агляд дзейнасці трупы, падкрэсліваючы адказныя задачы па ідэйна-эстэтычным выхаванні гледачоў і слухачоў. Гастролі ў Маскве, а таксама выступленні трупы ў Віцебску, праведзеныя ў мінулым сезоне, далі магчымасць тэатру як бы праверыць сябе, патрабавальна і прынцыпова ацаніць і дасягненні, і пралікі, зверыўшы практыку з надзённымі запатрабаваннямі сучаснага гледача, прафесійнай крытыкі, грамадскай думкі.

Мабыць, справядлівай была і трывога кіраўнікоў тэатра за стан і ўзровень асобных спектакляў. Напрыклад, А. Дадзішкіліяні адзначыў, што калектыў сам адчувае пэўны музейны характар пастаноўкі «Яўгенія Анегіна», недасканалую рэжысуру ў «Алесі» і «Кастрычніку», спрошчанасць трактоўкі «Андрэя Касцені». Тэатр мае намер вярнуцца да некаторых з пастановак мінулых сезонаў, каб даць ім новую сцэнічную інтэрпрэтацыю, якая больш глыбока і арыгінальна раскрые багацце музычнай драматургіі опер і балетаў сучасных кампазітараў і класікаў.

Спыніўшыся пераважна на прынцыпах рэжысёрскай трактоўкі бліжэйшай прэм'еры — оперы «Фауст», С. Штэйн цікава і востра паставіў пытанне пра дыялектычныя супярэчнасці, якія нясуць у сабе традыцыі і наватарства на опернай сцэне. І сапраўды, часам слухачы знаёмяцца з тым або іншым творам у рэдакцыі, далёкай ад задумы кампазітара, засмечанай звыклымі прыёмамі і штампамі, якія з'явіліся насуперак таму, што напісана ў партытуры.

Было падкрэслена, што оперная і балетная трупы тэатра імкнуцца да таго, каб кожны новы спектакль адпавядаў рэпутацыі і назве акадэмічнай сцэны. А гэта дыктуе пашырэнне рэпертуарных даляглядаў, узбагачэнне і ўздым рэжысёрскай культуры, клопат пра дасканалае сцэнічнае вырашэнне пастановак і кожнай ролі ў іх, пра гарманічнае суладдзе ўсіх кампанентаў тэатральнага відовішча.

Сёлета мінчане пазнаёмяцца з пяццю прэм'ерамі. Імі будуць оперы «Фауст» і «Пікавая дама», балеты «Раймонда» і «Бахчысарайскі фантан» і прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР спектакль «Міндзія» грузінскага кампазітара А. Тактакішвілі. У якасці рэжысёраў, балетмайстраў і мастакоў выступяць і запрошаныя з Масквы і Тбілісі вядомыя спецыялісты.

У красавіку адбудзецца фестываль опернага і балетнага мастацтва, у якім прымуць удзел вядучыя майстры беларускай сцэны і госці з братніх рэспублік краіны.

Такая садружнасць паміж творчымі работнікамі, гаварылася на прэс-канферэнцыі, дасць багаты плён і будзе спрыяць абнаўленню старога рэпертуару і найбольш яркаму раскрыццю спектакляў, што тэатр рыхтуе для пастаноўкі. Створан таксама савет ветэранаў беларускай сцэны, які

# ПРАЖЫТЫ ДЗЕНЬ...

## РЭПАРТАЖ З КІНАСТУДЫІ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»

«НА ГАНКУ залатым сядзелі: цар, царэвіч, кароль, каралевіч, шавец і кравец. Хто ты, маладзец?» Гэтая знаёмая лічылка гучыць у фільме «Залаты ганак» (аўтар сцэнарыя С. Палякоў, рэжысёр-пастаноўшчык І. Шышоў, аператар А. Аўдзееў). Яго героі — юнакі і дзяўчаты, якія толькі-толькі сышлі з «залатога ганка» свайго дзяцінства і ў пошуках сябе ўступілі «ў адзінаборства» з адвечным: «Хто ты? Навошта ты?»

«Залаты ганак» — адна з пяці планавых поўнаметражных стужак творчага аб'яднання мастацкіх фільмаў Беларускай кінастудыі. Здымкі адных стужак закончаны, другія на розных ступенях падрыхтоўчага перыяду. Якія фільмы зараз у рабоце, можна даведацца з таблічак з назвамі, што вісяць над дзвярыма мантажных і студый гуказапісу. Аднак пакуль дабярэшся да апошняга паверха, дзе яны знаходзяцца, трэба прайсці ўсе папярэднія колы кінематаграфічнага «раю». (А можа, «пекла»? Бо вельмі цяжка нараджаецца фільм.)

Унізе, у студыйным павільёне, заканчваюцца апошнія падрыхтаванні да... вяселля. Творчая група «Залатога ганка» выдае замуж Таню, гераіню карціны.

На суседняй пляцоўцы здымаецца эпізод фільма «Зімародак» (аўтар сцэнарыя Ю. Якаўлеў, рэжысёр Ул. Нікіфараў, аператар В. Нікалаеў). У галоўных ролях — вядомыя акцёры кіно Я. Самойлаў, А. Хвыля, Г. Стрыжэнаў, А. Максімава, Самойлаў-малодшы, які, праўда, вядомы пакуль прозвішчам бацькі, і школьнікі мінскіх школ. А школьнікі — усюды школьнікі, і тут, на здымачнай пляцоўцы, усё, як і ў сапраўдным класе ў час перапынку. Шум, валтузня, дзеці ўзнагароджваюць адзін аднаго нечаканымі мянушкамі, то злоснымі, то забаўнымі. На задняй парце два хлопчыкі робяць адзін аднаму модны «начос», а на першай дзве дзяўчынкі мераюцца сілай: хто чыю руку пакладзе на парту. Але вось другі рэжысёр карціны Л. Чыжэўская голасам строгай настаўніцы патрабуе ўвагі: «Цішыня!». І «заняткі» пачаліся.

Фільм гэты раскажа аб «чырвоных следапытах», якія шукаюць герояў далёкіх гадоў Вялікай Айчыннай вайны, аб тым, як дапамагаюць ім у гэтым дарослыя, як дзеці адкрываюць герояў у тых, хто жыве побач з імі, — у сваіх бацьках, знаёмых, настаўніках...

У рабоце яшчэ два мастацкія фільмы.

«Капітан Ян» — карціна пра нацыянальнага героя Чэхаславакіі Яна Налепку — беларускага партызана, які змагаўся з фашызмам і загінуў на нашай зямлі. Стваральнікі фільма — чэхаславацкі драматург Мілаш Крно і беларускі пісьменнік А. Дзялендзік. Ставіць гэты фільм рэжысёр А. Карпаў.

«Вуліца без канца» — фільм аб сучасным рабочым класе, аб пераемнасці пакаленняў.

— Наш герой,— гаворыць рэжысёр фільма І. Дабралюбаў,— характар моцны, разумны і эмацыянальны. Але ўласна яго самога на экране не будзе. Яго рысы, яго стаўленне да жыцця адлюстроўваюцца ў іншых людзях — прадаўжальніках яго справы, у нашых маладых сучасніках. Зараз падбіраем натуру, рэквізіт, пачаліся пробы акцёраў. Здымаць будзем у Мінску і Наваполацку, горадзе маладым і маладых...

Зусім іншыя, больш далёкія геаграфічныя шыроты прыцягнулі рэжысёра М. Калініна. На сценах яго пакоя малюнкі, акварэлі: Чукотка, тундра... «Тыя, што ідуць за гарызонт» — так будзе называцца гэты каляровы тэлевізійны фільм, сцэнарый якога напісаў А. Куваеў.

Цяжка пераказаць змест будучай карціны. Аб чым яна? І аб мары, якую павінен мець чалавек, і як важна не страціць сябе, сутыкнуўшыся з бядой. Пра тое, што ў кожнага з нас бывае свая «гадзіна пік», як правяраецца характар і сіла духу, і яшчэ пра «ружовую чайку», якую чалавек шукае ўсё жыццё...

У творчым аб'яднанні «Тэлефільм» студыі «Беларусьфільм», апрача «Тыя, што ідуць за гарызонт», здымаецца яшчэ шэраг карцін. (Між іншым, аб'ём прадукцыі нядаўна ўтворанага «Тэлефільма» ў два разы большы за гадавы аб'ём мастацкага аб'яднання.) На студыі жартуюць: «Тэлефільм»— гэта ў тры разы менш грошай, у два разы карацей тэрмін вытворчасці, большая норма выпрацоўкі і беззапаветны энтузіязм, які ўсё пакрывае».

Завершаны фільмы «Запіскі паляўнічага», «Факір на гадзіну», «Дзень маіх сыноў»; рыхтуюцца сцэнарыі: «Каштоўнасць карты генштаба», «Брат за брата», «24 гадзіны ў жыцці».

Працягваецца работа над шматсерыйным мастацкім фільмам «Руіны страляюць» — паводле аднайменнай дакументальнай аповесці І. Новікава, якая расказвае пра барацьбу Мінскага партыйнага падполля ў гады фашысцкай акупацыі. Чатыры серыі гэтай кінаэпапеі ўжо атрымалі высокую ацэнку гледача і прэсы. Трэба думаць, што стваральнікі карціны замацуюць яе поспех.

Яшчэ адну творчую кінагрупу «Тэлефільма» мы застаем у зале прагляду. Холадна — марозы ў Мінску лютыя, а на экране — спякотная Каліфорнія... Сотні метраў дакументальнай плёнкі, якая адлюстроўвае амерыканскі лад жыцця, прагледзелі стваральнікі фільма «Вашынгтонскі карэспандэнт» (аўтары сцэнарыя І. Менджарыцкі і М. Сагацелян, рэжысёр Ю. Дубровін).

— Гэты фільм — пра краіну, якая за апошнія дзесяць гадоў тройчы ўзрушыла свет палітычнымі «забойствамі веку», — гаворыць галоўны рэдактар творчага аб'яднання «Тэлефільм В. Булавіна. —Фільм пра грамадства, у якім гвалт над асобай — дзяржаўная палітыка. Дзеянне яго разгортваецца на шырокім плане грамадска-палітычнага жыцця ЗША. Адзін з аўтараў сцэнарыя прадстаўляў нашу прэсу ў Амерыцы на працягу дзесятка гадоў, быў ён там і ў дні забойства Джона Кенэдзі, таму ўсе падзеі фільма падаюцца нібы праз прызму ўспрыняцця сведкі. Вельмі ж складана спалучаць дакументальную дакладнасць з мастацкай формай...

Клопатам пра тое, як асэнсаваць і ўвасобіць на экране праўду жыцця, жывуць і дакументалісты студыі — работнікі творчага аб'яднання «Летапіс».

Каб уявіць сабе аб'ём работы гэтага аб'яднання, даволі назваць адну лічбу: калі перавесці яе прадукцыю на адначасткавыя фільмы, «Летапіс» выпускае іх каля ста ў год. Апрача дакументальных — навукова-папулярныя, вучэбныя. Натуральна, што расказаць пра ўсе немагчыма. Таму толькі пра некаторыя....

Сёлета спаўняецца пяцьдзесят гадоў з дня ўтварэння СССР. Ужо заканчваецца работа над карцінай «У агні выкаваны» — расказ аб стварэнні СССР і аб уступленні ў Саюз Беларускай рэспублікі (сцэнарыст Ул. Мехаў, рэжысёр А. Ігішаў). Гэты ж год знамянальны для Беларусі яшчэ адной юбілейнай датай — 90-годдзем з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Жыццю і творчасці вялікага песняра прысвечаны поўнаметражны дакументальны фільм, сцэнарый якога напісаў паэт А. Вялюгін (рэжысёр В. Дашук). Карціну будуць здымаць на радзіме Янкі Купалы, у вёсцы Вязынка, і ў тых месцах Расіі, дзе ён жыў і працаваў: на Волзе, у Маскве.

Завяршаецца работа над поўнаметражнай дакументальнай стужкай «Школа, сям'я, вуліца» (аўтар сцэнарыя Л. Браслаўскі, рэжысёры Ю. Лысятаў і Р. Ясінскі, аператар Р. Масальскі). Фільм цікавы тым, што за лёсам яго герояў кінадакументалісты сачылі дзесяць гадоў. Менавіта дзесяць гадоў і здымалася карціна...

Па сцэнарыі беларускага пісьменніка У. Караткевіча — знаўцы народных абрадаў, звычаяў, традыцый здымаецца карціна «Народны карнавал». Беларуская зіма сёлета не шкадуе кінематаграфістам ні калядных марозаў, ні пушыстага інею, ні звонкага лёду...

Быў ужо позні час, калі мы дабраліся да студыі гуказапісу. Рэжысёр Б. Шадурскі агучваў апошнія кадры кароткаметражнага фільма «Пражыты дзень». І падумалася, што кожны пражыты беларускімі кінематаграфістамі дзень насычаны хваляваннямі, спрэчкамі, знаходкамі, стратамі, радасцямі... З такіх дзён і складаецца творчае жыццё студыі «Беларусьфільм».

Р. БАКУНОВІЧ.

парадамі і рэкамендацыямі дапаможа калектыву захаваць лепшыя традыцыі, якія склаліся за амаль саракагадовую практыку.

Асаблівы клопат тэатра — пра арыгінальны рэпертуар. Умацоўваюцца сувязі з кампазітарамі. Пры гэтым калектыў не зніжае крытэрыяў ацэнкі і патрабавальнасці (напрыклад, зусім нядаўна кампазітару К. Цесакову было адкрыта сказана пра недасканаласць яго опернай партытуры і твор не ўключаны ў рэпертуар). Бліжэйшыя перспектывы вызначаны — гэта новая рэдакцыя оперы «Твая вясна» Я. Глебава, творы І. Лучанка, С. Картэса, Г. Вагнера, Д. Смольскага. У адных выпадках тэатр ужо знаёмы з першымі варыянтамі лібрэта і музыкі, у другіх аўтары яшчэ пачынаюць працу, але наладжаны сталы кантакт і ёсць узаемная зацікаўленасць, што абяцае добры плён.



Партыю Мефістофеля рэпеціруе народны артыст БССР Віктар Чарнабаеў.



Журналісты разглядаюць эскізы дэкарацый да спектакля «Пікавая дама».

Удзельнікі прэс-канферэнцыі выказалі ў адрас тэатра заўвагі, якія з'явіліся тут жа, у часе абмеркавання творчых планаў: па-першае, сучасная тэматыка пакуль што слаба прабіваецца на оперныя і балетныя падмосткі, па-другое, дэкларуючы імкненне заваяваць увагу маладога гледача, тэатр пакуль што ставіць або даўно вядомыя музычныя творы, або звернутыя ў мінулыя часы (скажам, Я. Глебаў піша музыку балета «Ціль Уленшпігель», С. Картэса захапіў вобраз Джардана Бруна). Мабыць, да гэтых заўваг кіраўніцтва тэатра прыслухаецца. У прыватнасці, А. Дадзішкіліяні, падкрэсліўшы, што галоўная оперная сцэна рэспублікі не можа і не мае права абмінаць творы Глінкі, Мусаргскага, Пракоф'ева, пагадзіўся, што трэба больш актыўна шукаць гатовыя сучасныя творы і заахвочваць тых кампазітараў, якія аддаюць сваё натхненне вобразам і тэмам сённяшніх дзён.

Было адзначана, што моладзь Мінска рэдка наведвае оперныя і балетныя спектаклі. Тут ёсць свае сацыялагічныя прычыны, але тэатр лічыць сваім абавязкам выхаванне эстэтычных густаў той часткі школьнікаў, студэнтаў, маладых рабочых і калгаснікаў, якая яшчэ задавальняецца магнітафонным запісам, выкананнем музычных твораў па радыё і тэлебачанні, не адчула непаўторнага хараства сустрэчы з жывым артыстам. Тэатр наладжвае сталыя сувязі з калектывамі прадпрыемстваў, установ, калгасаў, з камсамольскімі арганізацыямі. Выпускаюцца абанементы, набыўшы якія, малады чалавек атрымае магчымасць пазнаёміцца з оперным і балетным спектаклем. Для жыхароў вёскі будуць наладжаны своеасаблівыя мастацкія экскурсіі ў Мінск — хлопцы і дзяўчаты ўдзень пабываюць у музеях горада, наведаюць выдатныя мясціны, а ўвечары будуць гледачамі ў партэры або на балконах опернага.

Палепшыць варта і рэкламу. Ужо да «Фауста» тэатр выдае невялікую брашуру, якая шырока пазнаёміць гледача з творчасцю кампазітара Ш. Гуно, з літаратурна-фальклорнай крыніцай яго музычнага твора, з гісторыяй пастановак оперы. Такая ж кніжка рыхтуецца да прэм'еры «Пікавай дамы», дзе на старонках як бы сустрэнуцца А. Пушкін і П. Чайкоўскі. Тэатр мае намер і надалей выпускаць такія выданні да спектакляў, каб за тэатральны сезон у гледача збіралася маленькая бібліятэка папулярнай музыказнаўчай літаратуры, якая будзе своеасаблівым лоцманам у свеце мастацтва.

Журналісты пазнаёміліся з эскізамі дэкарацый будучых прэм'ер. Тлумачэнні ім даваў Я. Чамадураў.

...Прэс-канферэнцыя ў тэатры. Не зусім звычны рытуал. Такія ў рэспубліцы пакуль што не практыкаваліся. Оперны выступіў ініцыятарам. Прадстаўнікі тэатра і журналісты пагадзіліся, што «першы блін» не быў няўдалы, што такія сустрэчы карысныя і патрэбныя. Будучыя рэцэнзенты занатоўвалі тое, што гаварыў пра рэжысёрскую задуму «Фауста» С. Штэйн. Хтосьці цікавіўся гісторыяй «Пікавай дамы» на беларускай сцэне (тэатр рыхтуе оперу чацвёрты раз). Нехта назваў тыя оперы і балеты, якія чамусьці дагэтуль не ставіліся ў Беларусі. Прадстаўнікі тэатра адказвалі на пытанні, пагаджаліся з субяседнікамі або спрачаліся. Была атмасфера агульнай зацікаўленасці ў поспеху нашага музычнага тэатральнага мастацтва, якая, трэба спадзявацца, адлюструецца і ў новых газетных і часопісных публікацыях, у перадачах радыё і тэлебачання.

Пачатак зроблены. Оперны запрасіў журналістаў на другую прэс-канферэнцыю напярэдадні прэм'еры «Пікавай дамы». А журналісты падумалі — магчыма, і драматычныя тэатры падхопяць карысную ініцыятыву. Гэта было б правільна і добра!

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

**15 лютага спаўняецца 60 год літаратуразнаўцу, доктару філалагічных навук Навуму Перкіну. З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі паслала юбіляру прывітанне:**

**«З Турава, з глыбінь Палесся, выйшлі Вы на шырокую жыццёвую дарогу. Доўгі час настаўнічалі, былі ўлюбёны ў клопатную педагагічную працу. У часе Вялікай Айчыннай вайны мужна змагаліся з ворагам.**

**Сталым бывалым чалавекам Вы прыйшлі ў літаратуру на яе крытычны фронт. За два з паловай дзесяцігоддзі Вамі створана нямала — гэта і манаграфічныя даследаванні, і падручнікі для школ, і артыкулы, і рэцэнзіі. З глыбокім навуковым падыходам напісаны кнігі: «Творчасць Петруся Броўкі», «Аркадзь Куляшоў. Паэтычная творчасць», «У сям'і брацкіх літаратур», «Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30 гг. Праблемы сацыялістычнага рэалізму» і іншыя.**

**Рады адзначыць Вашу плённую працу як вучонага — Вы доўгі час узначальваеце адзін з сектараў у інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Прызнаннем Вашых заслуг у навуцы з'яўляецца прысваенне Вам звання доктара філалагічных навук.**

**Жадаем Вам, дарагі сябра, далейшых творчых поспехаў, моцнага здароўя, шчасця».**

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання і шчыра жадае юбіляру добрага здароўя і новых творчых поспехаў.**



# ВЫШЫНЯ

ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ — гэта вышыня, з якой далёка відаць, гэта ўзрост духоўнай сталасці, мудрай развагі. Добра, калі вышыня ўзросту ў поўнай меры адпавядае вышыні інтэлектуальнай, маральна-этычнай.

У асобе Навума Саламонавіча Перкіна, чыё 60-годдзе мы сёння адзначаем, шчасліва спалучыліся многія высокія чалавечыя якасці, выхаваныя нашым, савецкім часам, актыўным удзелам у ратных і працоўных здзяйсненнях народа. Ён — вядомы ў рэспубліцы літаратуразнавец, крытык, доктар філалагічных навук, прафесар. У даведніках Саюза пісьменнікаў можна прачытаць скупыя радкі з яго біяграфіі, але за кожным з гэтых радкоў цэлая аповесць аб жыцці чалавека, вельмі тыповая для ўсяго паслякастрычніцкага пакалення.

Хлапчукі з гэтага пакалення былі сведкамі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, калі ўсё грымела і бурліла. Асабліва ўрэзаліся ў памяць, успамінае Навум Саламонавіч, налёты банды Булак-Балаховіча на родны Тураў і суседнія палескія селішчы, а пасля прыход чырвоных, усталяванне мірнага жыцця на аснове садружнасці і братэрства.

«Часу, што фарміраваў наша дзяцінства, закладваў асновы нашай грамадзянскай свядомасці, я на ўсё жыццё ўдзячны за ўрокі сацыяльнай навукі і маральнай стойкасці», — гаворыць Н. Перкін.

Далейшы яго жыццёвы шлях быў няпросты і нялёгкі. Пасля смерці бацькі засталося іх васьмёра дзяцей. Старэйшыя браты імкнуліся пераняць прафесію бацькі шаўца-загатоўшчыка, тым больш, што ў спадчыну засталіся дзве швейныя машыны, вострыя нажы, малаткі і іншы дробны інструмент. Але прафесія шаўца не вельмі вабіла здольнага да вучобы хлопца, яго захапляла ўсё новае, незвычайнае. У школе стаў піянерам, у летнія месяцы вяслярыў на Прыпяці, разгружаў баржы з дрывамі.

Пасля сямігодкі і педагагічных курсаў малады настаўнік працуе ў вясковай школе на самай мяжы з Польшчай, і пра гэты перыяд ён можа расказаць многа цікавага, незвычайнага, прыгодніцкага. І ўсё ж мара аб далейшай вучобе не пакідала юнака. У пачатку 30-х гадоў ён у Мінску, працуе рабочым на фабрыцы, літработнікам у БелТА, адначасова вучыцца ў вячэрняй школе, затым у пединстытуце. Потым была служба ў арміі, якая дала добрую фізічную загартоўку і спецыяльныя веды, вучоба ў аспірантуры. І вось грымнула вайна. Пра Айчынную вайну і свой удзел у ёй Н. Перкін напісаў аповесць на аснове дзённікаў і дакументальных матэрыялаў. Добра было б сёння адаслаць чытачоў да гэтай аповесці, але яна пакуль што не надрукавана.

Два гады партызаніў ён у Бранскіх лясах у тыле ворага, пабываў і байцом-артылерыстам, і мінёрам, і камандзірам узвода, і начальнікам штаба атрада, а потым начальнікам штаба Рагнедзінскай партызанскай брыгады Заходняга (Смаленскага) штаба партызанскага руху. Толькі ў верасні 1943 г. партызаны з'ядналіся з фронтам, і тады пачалася новая старонка біяграфіі яе ўдзельнікаў. Пасля вучобы ў артылерыйскай школе Н. Перкін камандаваў батарэяй, прыйшлося дакалачваць, як ён кажа, курляндскую групоўку. На Лібаўскім напрамку быў у другі раз паранены.

Пасляваеннае жыццё і праца Навума Саламонавіча на нашых вачах. Мы бачым яго ў штодзённым мірным жыцці на працы ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР. Спачатку на пасадзе малодшага навуковага супрацоўніка, потым, дзякуючы настойлівай працы і здольнасцям, ён становіцца загадчыкам сектара. Пра жыццё і творчы шлях свайго калегі Н. Перкіна хочацца сказаць вершам:

**...Усяго ў жыцці зазнаў багата —**
**Быў і пад канём і на кані,**
**Быў шаўцом, настаўнікам, салдатам,**
**Хлопец з адчуваннем вышыні.**
**Хіба ёсць на Тураўшчыне горы?**
**Толькі рэчка з назваю Гарынь,**
**Мо ў яе з гарой адзіны корань,**
**Калі можа ўзнесці да вяршынь...**

У думках аглядаю зробленае Н. Перкіным. Зроблена нямала. Выйшлі ў свет яго кнігі: «Творчасць Петруся Броўкі» (1952), «Аркадзь Куляшоў» (1961), «Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30-х гг.» (1960), «У сям'і братніх літаратур» (1967), «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў літаратуры» (1971). Акрамя гэтага, ён удзельнік многіх калектыўных прац, галоўныя з іх: «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» і шасцітомная гісторыя многанацыянальнай савецкай літаратуры, што выходзіць у Маскве.

Даследчык з захапленнем гаворыць аб новай рабоце, якая ў яго на стале. А работа гэта сапраўды ёмістая — «Канцэпцыя чалавека ў савецкім рамане». Тут улічваецца фактычны матэрыял многіх братніх літаратур, даследуецца наватарства літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

У такой рабоце трэба абапірацца на філасофію, на гісторыю, сацыялогію, эстэтыку, на ўсе дасягненні літаратуразнаўчай навукі. Папярэднія працы падвялі яго да гэтага шырокага даследавання, якое мае на мэце раскрыць істотна новае, што дасягнута савецкай раманістыкай па шляху чалавеказнаўства.

Доктар навук Н. Перкін кіруе цяпер сектарам тэорыі ў акадэмічным інстытуце. Сектар гэты яшчэ малады, ён толькі набіраецца сілы, але ўжо выходзяць яго кнігі, значныя па сваёй навуковай каштоўнасці.

Увайшоўшы ў ролю карэспандэнта штотыднёвіка, я прашу Навума Саламонавіча выказаць свае адносіны да матэрыялаў апошняга пленума па крытыцы, да стану крытыкі ў нас, у рэспубліцы.

— Увага партыі і ўрада да літаратурна-мастацкай крытыкі нас вельмі радуе, — сказаў ён. — Прыемна таксама, што робіцца акцэнт на шырокіх даследаваннях, што гэтыя даследаванні павінны памагаць крытыцы. А то ж раней у нас была недаацэнка тэорыі, занятак тэорыяй трактавалі часам як жаданне адысці ад сучаснасці, схавацца ад вострых праблем і г. д. Нам жа думаецца, калі тэорыя жывая і абапіраецца на творы сучаснасці, то яна гэтым самым актыўна ўздзейнічае на літаратурны працэс. Тэорыя можа ўзнімацца высока, але заўсёды павінна адчуваць пад сабой глебу, жывую, многабаковую сувязь з практыкай, з сённяшнім літаратурным жыццём у краіне.

Нельга не пагадзіцца з гэтымі слушнымі думкамі загадчыка сектара тэорыі літаратуры і пажадаць яму, няўрымсліваму ў працы і пошуках, віднаму, добраму, сціпламу чалавеку Навуму Саламонавічу Перкіну многа творчых сіл і здароўя, каб здзейсніць усе свае задумы і дапамагчы маладым крытыкам авалодаць багаццямі тэорыі.

Марына БАРСТОК.



Фрагмент праекта рэканструкцыі цэнтра.

# ГРОДНА КРОЧЫЦЬ У ЗАЎТРА

*РЭПАРТАЖ З КАМЕНТАРЫЯМІ І АДСТУПЛЕННЯМІ*

ПЕРШАГА лютага ў Гродне адбылося выязное пасяджэнне Дзяржаўнага камітэта па будаўніцтве і архітэктуры пры Савеце Міністраў БССР. Камітэт абмеркаваў генеральны план і праект рэканструкцыі цэнтра Гродна, над якім працавалі Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, інстытут «Белкамунпраект», кафедра тэорыі і гісторыі архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута.

### — У ГРОДНЕ ДЗІВОСНА СПАЛУЧАЕЦЦА СТАРОЕ І НОВАЕ...

**У. КАРОЛЬ, старшыня Дзяржбуда БССР, народны архітэктар СССР. З выступлення на пасяджэнні.**

Так. У Гродне старое і новае спалучаюцца сапраўды дзівосна. З аднаго боку, магутныя прамысловыя прадпрыемствы, вакол якіх бурна развіваюцца буйныя жылыя раёны на поўдні, усходзе, на поўначы. З другога—стары цэнтр горада, планіровачная структура якога дайшла да нас амаль нязменнай з сярэдзіны XVIII стагоддзя.

*«...многія цяперашнія вуліцы—Віленская, Замкавая, Замкавы завулак, Пасіянарыі, Урыцкага, Кірава, К. Маркса, Свярдлова, а таксама напрамак вуліц, якія цяпер носяць назвы А. Кашавога, К. Цэткін, 8 Сакавіка, Маставой, Падольнай—склаліся яшчэ ў сярэдзіне XVI стагоддзя».*

**Тлумачальная запіска да праекта рэканструкцыі.**

Напэўна ніводны беларускі горад не мае зараз столькі гістарычных і архітэктурных помнікаў, такой чысціні старажытнай планіроўкі, як Гродна. Зразумела, што ўсё гэта вялікая каштоўнасць. Але сёння старажытная забудова цэнтральна-гістарычнага ядра замінае нармальнаму жыццю абласнога цэнтра. Вузкія вулачкі, якія засталіся ад сярэднявечча, не могуць прапусціць магутныя транспартныя рэкі, спарахнелыя двухпавярховыя дамы, без усялякіх выгод, не дазваляюць узняць камфорт жытла, старыя памяшканні, у якіх зараз месцяцца некаторыя прамысловыя прадпрыемствы, культурныя ўстановы, сталовыя, школы, не адпавядаюць сучасным гігіенічным нормам. Цэнтру новага, буйнага горада цесна ў межах, у якіх размяшчаўся цэнтр сярэдневяковага Гродна.

Зразумела, што ў такіх умовах «спалучэнне» аб'ектыўна павінна перарасці ў «канфлікт». Новае пачне актыўна ўмешвацца ў старое, выціскаць яго. Будуць прарубацца транспартныя магістралі, будавацца новае жытло, адміністрацыйныя і культурныя ўстановы. А старыя дамы, старыя вуліцы сыходзяць у нябыт у хмарах цаглянага пылу, пад скрыгат бульдозераў.

Нешта падобнае пачало адбывацца і ў Гродне...

*«...будаўніцтва, якое праводзілася ў цэнтры Гродна без навукова абгрунтаванага плана, без уліку каштоўнасці старых збудаванняў, адведзеных пад знос... вельмі пашкодзіла цэнтру горада. Загінула шмат каштоўных будынкаў: дом № 6 па вуліцы Замкавай (XVII стагоддзе), былая карчма «Раскоша», былыя дамы рабочых па вуліцы Ажэшкі, былы гарнізонны касцёл, рэшткі каралеўскіх канюшань».*

**Тлумачальная запіска да праекта рэканструкцыі.**

### — ГАЛОЎНАЙ НАШАЙ ЗАДАЧАЙ БЫЛО ПАСТАВІЦЬ КРОПКУ Ў СПРЭЧКАХ: ЗНОСІЦЬ—НЕ ЗНОСІЦЬ...

**М. ЛІЎШЫЦ, заслужаны архітэктар БССР, галоўны архітэктар інстытута «Белкамунпраект». З выступлення на пасяджэнні.**

Кропку паставіць было не так лёгка. Па-першае, трэба было даказаць мэтазгоднасць захавання не толькі асобных помнікаў гісторыі і архітэктуры, а і таго асяроддзя, у якім яны выглядаюць найбольш натуральна. Для гэтага было абследавана і апісана больш 750 старых будынкаў, якія ўваходзяць у цэнтральна-гістарычнае ядро.

Па-другое, трэба чотка акрэсліць новую функцыю старога цэнтра, якую ён набудзе пасля рэканструкцыі, вызначыць раёны яго ўнутранага заніравання.

Па-трэцяе, правесці сацыяльна-дэмаграфічнае даследаванне, якое дазволіла б канкрэтна сказаць, колькі спатрэбіцца ў рэканструяваным цэнтры кватэр, магазінаў, кінатэатраў, сталовых, рэстаранаў, школ, ясляў і дзіцячых садоў.

Па-чацвёртае, эканамічна абгрунтаваць саму ідэю рэканструкцыі.

Гэта была вялікая і карпатлівая работа, складаная яшчэ і тым, што праводзілася яна ў Беларусі ўпершыню.

Але і плён яна дала вялікі.

Галоўнае — яна дала сапраўды навуковыя рэкамендацыі ў адносінах да кожнага дома. Акрамя таго, дзякуючы ёй, былі акрэслены тры зоны рэканструкцыі цэнтра: запаведная—Замкавая гара з навакольнымі вуліцамі Замкавай, часткай Навазамкавай, А. Кашавога, Замкавага завулка; ахоўная — раён вуліц К. Маркса, Маладзёжнай, Пасіянарыі, Энгельса, Бернардзінскі манастыр з касцёлам і кварталы, якія прылягаюць да яго; зона рэгулявання забудовы—пойма ракі Гараднічанкі з часткай вуліцы Віленскай, забудова ў межах вуліц Віленскай, Горкага, плошчы Леніна, вуліц 1 Мая, Валковіча, Ажэшкі, Леніна, Падольскай.

Усё гэта дало архітэктарам падставы з упэўненасцю сказаць: у раёне рэканструкцыі неабходна знесці ў асноўным адна- і двухпавярховыя драўляныя і каменныя жылыя дамы, якія не маюць ніякай маральнай каштоўнасці, пабудаваныя ў асноўным перад 1917 годам, якія проста нявaрта рамантаваць.

### — ЯШЧЭ РАЗ ЗВЯРТАЮ ВАШУ ЎВАГУ НА ТОЕ, ШТО ПРАБЛЕМА ТРАНСПАРТУ—ПРАБЛЕМА НУМАР АДЗІН...

**У. КАРОЛЬ. З выступлення на пасяджэнні.**

Зараз па вузюткіх, непрыстасаваных вулачках цэнтральнага раёна праходзяць магутныя патокі пасажырскага і грузавога транспарту. Яны ідуць з Занёманскага раёна праз мост, Савецкую плошчу, вуліцу К. Маркса і далей у раён азотнатукавага камбіната. Другі напрамак з Усходняга прамысловага раёна і ад вакзала па вуліцы Кірава, Савецкай плошчы праз мост у Занёманскі раён. Праз Савецкую плошчу праходзіць транспарт і з вуліц Горкага і А. Кашавога.

Зразумела, што гэтыя патокі не на карысць старому цэнтру. Перад архітэктарамі стаяла задача вызваліць цэнтральна-гістарычны раён ад транзітных патокаў, перавесці адсюль увесь грузавы і звесці да мінімуму пасажырскі транспарт. Вырашыць гэтую задачу можна было, толькі стварыўшы вакол старога цэнтра кальцо хуткасных магістраляў.

*«...з мэтай захавання гістарычнага цэнтра горада, улічваючы схемы транспартнай абслугі, распрацаваныя Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, транспарт прапусціць у абыход цэнтра».*

**Тлумачальная запіска да праекта рэканструкцыі.**

Такое рашэнне архітэктараў выглядае аптымальным. Пасля рэканструкцыі цэнтральна-гістарычнага ядра стары раён будзе амаль поўнасцю належаць пешаходам. Пры ўездах у яго будуць наладжаны вялікія стаянкі для пасажырскага і легкавога транспарту.

Але ці не створыць такое рашэнне нязручнасцяў для жыхароў цэнтра?

Не. Стары цэнтр займае не вельмі вялікую плошчу. З любога яго пункта можна прайсці ў любы іншы за дзесяць, пятнаццаць мінут. Акрамя таго, сацыяльна-дэмаграфічнае даследаванне вызначыла, што амаль палова жыхароў цэнтра працуюць за дваццаць хвілін пешага ходу ад дома. Але каб надзейна звязаць цэнтр з прамысловымі раёнамі і з вялікімі жылымі раёнамі, плануецца пусціць пасажырскі транспарт унутры цэнтральнага раёна па вуліцы Сацыялістычнай, якая звязвае вуліцу Парыжскай камуны з вуліцай 1 Мая і далей з Паўночным прамысловым раёнам.

### — ВЫРАШАЮЧЫ АГУЛЬНЫЯ ПЫТАННІ, НЕЛЬГА ЗАБЫВАЦЦА НА ДЭТАЛІ...

**Ю. ШПІТ, намеснік старшыні Дзяржбуда БССР. З выступлення на пасяджэнні.**

На планшэтах рэканструкцыі старога цэнтра Гродна, якія зрабілі архітэктары «Белкамунпраекта», можна ўбачыць разгорткі сілуэта цэнтральна-гістарычнага ядра з Занёманскага раёна і з правага берагу Гараднічанкі. Гэтыя разгорткі даюць поўнае ўяўленне аб непаўторнасці і прыгажосці старога Гродна.

У асноўным забудова старога цэнтра двух-трохпавярховая. Але яе агульны сілуэт узбагачаюць высокія ўзгоркі, якія спускаюцца проста да Нёмана, шпілі званіц, вытанчаныя купалы цэркваў, вежы касцёлаў. Вышынныя кампазіцыі былога Езуіцкага касцёла, добра бачныя са Скідэльскай і Віленскай вуліц. Былы Брыгіцкі манастыр далёка бачны ў створы вуліцы К. Маркса. Архітэктарам трэба было прадугледзець цэлы шэраг мерапрыемстваў, каб захаваць гістарычна складзены сілуэт, каб не сапсаваць яго недарэчнымі ўбудовамі. Таму натуральнай выглядае іх прапанова адмовіцца ад будаўніцтва ў цэнтры дамоў вышэй за чатыры паверхі. Больш таго, каб захаваць не толькі сілуэт забудовы старога цэнтра, але і ўвесь басейн яго бачнасці, яны абмежавалі вышыню будаўніцтва на вуліцах К. Маркса, Урыцкага, Віленскай.

*«...для размяшчэння новых высотных кампазіцый трэба шукаць тэрыторыі за межамі гістарычна складзенага цэнтра».*

**Тлумачальная запіска да праекта рэканструкцыі.**

Не забыліся архітэктары і на іншыя дэталі, якія так часта складаюць непаўторны воблік горада. У праекце прадугледжана максімальна захаваць і нават аднавіць металічныя дэталі аздаблення, чыгунныя рашоткі сквераў, балконаў, лоджый. Беражліва ставіцца да сталярных вырабаў старажытных профіляў, да разнога драўлянага аздаблення будынкаў.

Звернута ўвага і на неабходнасць зберагчы каменнае і плітачнае пакрыццё вуліц і тратуараў, чарапічныя дахі, старыя дрэвы, невялічкія дворыкі—каларытную дэталь старога Гродна.

*«...гэтыя мерапрыемствы дазволяць захаваць агульнае ўражанне ад горада, каларыт, настрой і характар яго забудовы. Спецыфіку вырашэння яго прасторы, пластыкі, колеру і азелянення».*

**Тлумачальная запіска да праекта рэканструкцыі.**

### — ШТО РАБІЦЬ З ПОМНІКАМІ ГІСТОРЫІ І АРХІТЭКТУРЫ?..

**Г. АХРЫМЕНКА, старшыня гарвыканкома Гродна. З выступлення на пасяджэнні.**

Каб ужо зараз планаваць работы па рэканструкцыі альбо рэстаўрацыі помнікаў культуры і архітэктуры, трэба перш-наперш вызначыць іх будучую функцыю. Працей кажучы, трэба ўжо сёння ведаць, якія ўстановы будуць гаспадарыць у памяшканнях помнікаў заўтра.

Зараз многія гістарычныя помнікі Гродна выкарыстоўваюцца, мякка кажучы, не па прызначэнні. Яны, як правіла, здадзены ў арэнду складам, архівам, бібліятэкам, сталовым, адміністрацыйным установам. У гэтых «кватарантаў» няма ні грошай, ні ахвоты прыводзіць старажытныя будынкі да ладу.

Значыцца, каб вырашыць праблему помнікаў, трэба прадумаць, каго з часам можна будзе «пасяліць» у гэтых памяшканнях.

Лепей за ўсё зыходзіць з праектнага заніравання цэнтральна-гістарычнага ядра.

Стары цэнтр Гродна пасля рэканструкцыі набудзе ў асноўным функцыі культурнага, турысцкага, гандлёвага цэнтра горада. Таму слушнай выглядае прапанова размясціць у квартале вуліцы А. Кашавога, багатым на цікавыя ў гістарычным і архітэктурным сэнсе будынкі, гасцініцы, інтэрнаты.

Прадпрыемствы гандлю, грамадскага харчавання, абслугі турыстаў і жыхароў цэнтра засярodзіць у раёне вуліцы Савецкай, Брыгіцкага манастыра і Замкавай гары.

У цэнтры Гродна не хапае ўстаноў грамадскага харчавання, памяшканняў для клубаў, кінатэатраў, канцэртных і тэатральных залаў. Натуральна, што многія з гэтых устаноў могуць быць размешчаны ў будынках архітэктурных і гістарычных помнікаў і ў дамах, якія ўяўляюць гістарычную і эстэтычную цікавасць.

*«...неабходна дакладна вызначыць функцыі помнікам гісторыі і архітэктуры, якія будуць рэканструяваны і рэстаўрыраваны. Без людзей гэтыя будынкі застануцца мёртвымі».*

**Тлумачальная запіска да праекта рэканструкцыі.**

### — НАМ ПАТРЭБНА БЫЛО ВЕДАЦЬ НЕ ТОЛЬКІ, ЯК ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ Ў ЦЭНТРЫ, АЛЕ І ЯК ЯНЫ ХОЧУЦЬ ЖЫЦЬ...

**М. ЛІЎШЫЦ. З выступлення на пасяджэнні.**

У час правядзення сацыяльна-дэмаграфічнага даследавання ў цэнтры Гродна архітэктары распаўсюдзілі 10000 анкет, якія пасля апрацоўкі далі магчымасць скласці ўяўленне аб узросце, сямейнай, сацыяльнай структуры насельніцтва цэнтра. Былі выяўлены характар зносін, нарматывы працоўнага і вольнага часу.

Гэта было патрэбна, каб дакладна вызначыць, колькі ў гэтым раёне спатрэбіцца двухпакаёвых, трохпакаёвых і аднапакаёвых кватэр, каб з усімі выгодамі рассяліць жыхароў цэнтра, які тут будзе ўзровень штодзённай міграцыі насельніцтва, якія патрэбны ўстановы бытавой, культурнай абслугі.

У выніку даследавання была заўважана тэндэнцыя зніжэння запатрабаванняў у цэнтральна-гістарычным ядры на месцы ў дзіцячых яслях і садах. Гэта дазволіла архітэктарам зменшыць у праекце іх колькасць у гэтым раёне ў параўнанні з сярэдне-нарматыўнай.

Было заўважана, што з цягам часу ў цэнтры будзе жыць шмат адзінокіх, сярод якіх большасць старых. Гэта вымусіла запраектаваць дастатковую колькасць будынкаў гасцінічнага тыпу і інтэрнатаў.

Такое даследаванне ў Беларусі праводзілася ўпершыню і таму яго вынікі цяжка пераацаніць. Відаць, яго вопыт трэба будзе ўлічваць пры рэканструкцыі цэнтраў такіх гарадоў, як Віцебск, Мінск, Гомель, Брэст, Мазыр, Пінск і інш.

### — КОЖНЫ ГОРАД МАЕ ГАЛОЎНУЮ ВУЛІЦУ... ЧЫМ БЫЎ БЫ МІНСК БЕЗ ЛЕНІНСКАГА ПРАСПЕКТА?.. А НА ГЭТЫХ ПЛАНШЭТАХ Я ТАКОЙ ВУЛІЦЫ НЕ БАЧУ.

**Н. МАЛОЧКА, старшыня Гродзенскага аблвыканкома. З выступлення на пасяджэнні.**

Так, на планшэтах архітэктараў «Белкамунпраекта» няма цэнтральнай, парадпай магістралі агульнагарадскога прызначэння. Ды яе і не магло быць. Новая

магістраль у раёне старога цэнтра перайтварыла б яго аблічча, патрабавала б ад архітэктараў зусім па-новаму вырашаць і генеральны план і праект дэталёвай планіроўкі цэнтра горада, ісці на знос многіх каштоўных будынкаў.

Гэта пярэчыла б агульнай горадабудаўнічай тэндэнцыі рэканструкцыі цэнтральна-гістарычнага ядра. Таму архітэктары і адмовіліся ад стварэння нейкай новай парадпай магістралі, зусім слушна палічыўшы, што гэтую функцыю можа з поспехам выконваць вуліца Ажэшкі.

Але тым не менш у сваім праекце яны прадугледзелі стварэнне ў старым цэнтры вуліцы агульнагарадскога прызначэння...

*«...у цэнтральна-гістарычным ядры горада большасць прадпрыемстваў гандлёва-бытавой абслугі размешчана на Савецкай вуліцы... Мы лічым неабходным захаваць і развіць гэта гістарычна складзенае заніраванне і даць жыхарам гэтага раёна, жыхарам горада, а таксама гасцям магчымасць наведаць «гандлёвую» вуліцу».*

**Тлумачальная запіска да праекта рэканструкцыі.**

Гандлёвая вуліца, паводле думкі архітэктараў «Белкамунпраекта» — гэта не так гандлёвы цэнтр горада, як утульны куточак, у якім прыемна пагуляць і днём і ўвечары, зайсці ў адзін-другі цікавы магазінчык, пасядзець з сябрамі ў кафэ...

Архітэктар Любен Тонеў, член-карэспандэнт Балгарскай акадэміі навук, піша пра такія вулачкі: «...магазін тыпу «супермаркет» з пункту гледжання гандлёвай арганізацыі і выгод для абслужнага персаналу мае бясспрэчныя перавагі. Але хіба можа ён замяніць у псіхалагічных адносінах ажыўлены гандлёвы завулак альбо гандлёвы цэнтр з утульнымі вітрынамі і вулічнымі прасторамі, куды людзі прыходзяць з задавальненнем не толькі купляць, але і каб сустрэцца са знаёмымі, пагуляць...».

Стварэння такой вуліцы ў цэнтры Гродна патрабуюць і інтарэсы тых тысяч турыстаў, якія будуць прыязджаць у Гродна. Ім будзе цікава прайсціся па сапраўднай старажытнай вулачцы, багатай на розныя невялікія, унікальныя крамы і магазіны.

Канечне, ні пра які транспарт па гэтай вуліцы не можа ісці гаворкі. Яна — толькі для пешаходаў. Усё на ёй павінна быць прадумана да драбніц, зыходзячы з патрабаванняў пешаходаў — і аздабленне, і вітрыны, і малыя архітэктурныя формы, і тэлефонныя будкі, і лаўкі, і паштовыя скрынкі, і дэкаратыўная скульптура, і зеляніна.

Гэтая вуліца мае ўсе падставы з цягам часу зрабіцца адной з самых утульных і прыгожых у старым Гродне.

У Белкамунпраекце над гэтым праектам і працавалі архітэктары С. Кац, М. Ліўшыц, Г. Мятліцкі, Я. Фарбераў, В. Чэпік, інжынер Л. Галкін. Супрацоўнічалі з імі работнікі кафедры тэорыі і гісторыі архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута доктар архітэктуры, прафесар У. Чантурыя і кандыдат архітэктуры, дацэнт Н. Зельтан. Тэрмін выканання праекта рэканструкцыі супаў з вырашэннем генеральнага плана Гродна і выкананнем праекта дэталёвай планіроўкі ўсяго цэнтра, якую выконвалі архітэктары Мінскага філіяла Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва пад кіраўніцтвам Ю. Глінкі. Паколькі цэнтральна-гістарычнае ядро горада з'яўляецца адначасова часткай усяго цэнтра, вырашана было аб'яднаць намаганні абодвух інстытутаў.

Гэтая сумесная работа аказалася несумненна плённай. І хаця ў Дзяржаўнай камісіі па будаўніцтве і архітэктуры, якая засядала ў Гродне, было некалькі вельмі важкіх заўваг якраз па генеральным плане, тым не менш можна лічыць, што галоўныя пытанні, якія стаялі перад праекціроўшчыкамі, — абгрунтаванне неабходнасці захаваць стары цэнтр, выявіць напрамкі развіцця горада на перспектыву, вырашыць праблему транспарту, акрэсліць чарговасць будаўніцтва і вынасу з цэнтра шкодных прадпрыемстваў, — можна лічыць у цэлым вырашанымі.

**— СЁННЯ ПЕРАД НАМІ ПАЎСТАЛА ПЫТАННЕ РЭКАНСТРУКЦЫІ ЦЭНТРАЎ ГАРАДОЎ. І Ў ГЭТЫМ СЭНСЕ ВОПЫТ ГЭТАГА ПРАЕКТА ВАРТЫ РАСПАЎСЮДЖВАННЯ...**

**У. КАРОЛЬ. З выступлення на пасяджэнні.**

Галоўная каштоўнасць гэтага праекта, на маю думку, у тым, што ён распрацаваў дакладную метадалогію горадабудаўнічага падыходу да складанай задачы рэканструкцыі гістарычна складзенага цэнтра старога горада.

Спачатку скрупулёзныя даследаванні гістарычна-архітэктурнай спадчыны, сацыяльна-дэмаграфічнае даследаванне, потым канкрэтныя прапрацоўкі, эканамічна абгрунтаваныя, з улікам самых, на першы погляд, дробязных дэталяў — гэта павінна стаць законам для ўсіх беларускіх горадабудаўнікоў, якія займаюцца праблемай рэканструкцыі

**Алег БЕЛАВУСАЎ,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**

# РАБОЧЫ ГОД ПАЭТАЎ

*З СУМЕСНАГА ПАСЯДЖЭННЯ СЕКЦЫЙ ПАЭЗІІ І КРЫТЫКІ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА СП БССР*

**4 СТУДЗЕНЯ** адбылося сумеснае пасяджэнне секцый паэзіі і крытыкі і літаратуразнаўзнаўства, прысвечанае абмеркаванню вынікаў мінулага паэтычнага года. З аглядам паэтычнай прадукцыі года выступіў Мікола Арочка.

— 1971 год, — гаворыць ён, — быў надзвычай ураджайны на ліра-эпіку. На яго рахунку звыш дзесяці паэм. Цікавая агульнасць: амаль усе аўтары паэм пераносяцца памяццю да вытокаў, у край юнацтва і маленства — у тыя нялёгкія акалічнасці, дзе пазнаваліся маральна-этычныя першавытокі жыцця. З'ява гэтая не можа не насцярожыць: ці не адыход гэта ад сучасна-злабадзённай тэматыкі і праблематыкі?

Гаворачы пра паэму А. Куляшова «Далёка да акіяна», дакладчык адзначае, што гэта — шырокае ліра-эпічнае палатно, на якім адбіла свае сляды большая частка жыцця паэта, яго маральная і філасофская канцэпцыя свету і тыя, прапушчаныя праз сэрца, многія дзесяцігоддзі з іх незвычайнай бурлівасцю падзей. На пачатку паэма трохі расчароўвае: на фоне папярэдняй «Цунамі» залішне кантрастна выглядае зніжэнне да апісанняў звычайных карцін побыту, вузка-сямейных канфліктаў у доме бацькоў. Паэма ажывае, набываючы значнасць у шырыні і разгоне недзе на паўдарозе, калі лірычны герой сутыкаецца з жыццёвымі складанасцямі, куды большымі за хатнюю калатнечу.

Другой значнай рэччу — па актыўнасці эстэтычных адносін да жыцця — дакладчык лічыць паэму В. Зуёнка «Сяліба». Паэт добра адчувае, у якіх пластах мінуўшчыны яго родавыя карэнні. Дыялог з гісторыяй свайго краю атрымаўся эстэтычна паўнагучны, змястоўны. Мінулае ў творы як бы знізу падсвечвае сучаснасць, памагае спасцігнуць вастрыню многіх набалелых праблем, адна з якіх — беражлівае стаўленне да прыроды.

В. Макарэвіч не без поспеху абжывае далей свой «Мацярык маленства». Гэты мацярык уражвае незвычайнай свежасцю паэтызацыі, якая, нібы магічны крышталь, прымушае знутры засвяціцца многія будзённа-бытавыя рэчы, адкрывае праз іх дужа пачуццёвую і шырокую карціну часу з многімі цяжкасцямі-нягодамі, з няпростымі супярэчнасцямі.

Не, відаць, не марна паэты праходзяць «зваротным шляхам», узбіваюць горкі пыл топтаных дарог-сцяжын. Тым не менш пагроза выпрацоўкі стэрэатыпу «ўспаміну-вяртання» ўсё ж рэальная. Звужэнне ідзе па лініі жанравых і стылявых магчымасцей, па лініі аднатыпных вобразаў, да якіх прыкавана памяць маленства. Стэрэатыпнасцю паварочваецца паэтызацыя, скажам, такіх роднасных вобразаў, як легендарны конь-агонь у паэме А. Куляшова, як карова Лысуха з твора В. Макарэвіча або карова Недзяленя з аднайменнай паэмы Н. Гілевіча.

Ёсць у Н. Гілевіча яшчэ адзін твор, які не прэтэндуе на жанр паэмы, а пазначаны як вершаванае апавяданне — «А дзе ж тая крынічанька?» У шчырым звароце аўтара да песенна-фальклорных крыніц чуецца бруістасць і крыніц маральнай чысціні народа, яго дабраты, здольнасці на інтымны і духоўны водгук. Гэта твор «душы» і трывожнай думкі ў падтэксце.

Да жывых крыніц бацькоўскага краю звернута і паэма А. Лойкі «Лясун», якая таксама дае ў пэўнай меры матэрыял для роздуму над жыццём, хоць ёй, здаецца, моцна шкодзіць залішне ідэалізаваная паэтызацыя дарагіх сэрцу рэчаў, узятых часам па-за сацыяльным аналізам і псіхааналізам.

Прачулым лірычным маналогам — то мужна, то ледзь стрымана — гучыць «Паэма расстання» Г. Бураўкіна. Падчас толькі цяжкавата чытаюцца ў збегу кароткіх слоў некаторыя рытарычныя хады ды яшчэ, падалося, не зусім да месца налёт панібрацтва ў зваротах: «Юра!..», «Валя!»

Далей прамоўца гаворыць пра паэмы У. Паўлава, Р. Тармолы, У. Нядзведскага, адзначаючы, што нявдач чамусьці болей у жанры «павесційнага», сюжэтна-падзейнага. Нават у такога прызнанага аўтара многіх аповесцей, як У. Паўлаў, паэма павесційнага тыпу («Звон падковы») не ідзе, яе падзеям цесна ў страфе.

Да жанру паэмы прымыкаюць і шматлікія вянкі санетаў, што з'явіліся ў мінулым годзе. Сярод іх М. Арочка вылучае вянок санетаў А. Звонака «Праўда веку» — яго прыўзнімае і ажыўляе тое, што класічная форма напоўнена хвалюючым грамадзянскім зместам.

Па-ранейшаму надзейную службу нясуць у нашай паэзіі яе старэйшыя і прызнаныя майстры — П. Броўка і М. Танк. Высокай заклапочанасцю, у прачула-лірычнай, задушэўнай форме жыве і добрае сэрца В. Віткі — яго верш «Спяшайцеся» вызначаецца той магіяй слова, што чаруе і іскрыцца адценнямі ўсмешкі, іроніі, болю і раптам дасягае такой сілы душэўнай праніклівасці, што наварочваецца сляза.

Па-ранейшаму нясе высокую «службу святла» паэзія А. Русецкага. Паэт, можа, часам трохі рацыяналістычны і сухаваты, але ягоная думка-трывога: толькі б рэчы «ідаламі ззяць не пачалі, ды не страціць гонар чалавечы, наша прызначэнне на зямлі» — даходзіць да чытача.

Зіхатліва-мяккі і чысты след у нашай лірыцы пакідаюць нізкі вершаў С. Дзяргая, А. Бачылы, А. Пысіна. Гаворачы пра тое, што сумленнасць у паэзіі — перадумова яе шматзначнасці, якая абавязкова вырастае з першага — з голасу сэрца, дакладчык спыняецца на лірыцы С. Грахоўскага. «Мы часта гаворым не тое, што ў сэрцы» — згадвае ён прызнанне паэта, і заўважае, што яно ў нейкай меры тычыцца і самога С. Грахоўскага. Гаварыць «не тое» — што можа быць большым пакараннем для паэзіі, для самога сябе, чым гэта?

Да купалаўскай традыцыі вельмі блізка стаяць паэты, што ўспрымаюць грамадзянскасць як асабіста-маральны абавязак. З паэтаў сярэдняга пакалення, працягвае дакладчык, найбольшым грамадзянскім тэмпераментам, прынцыповасцю і паслядоўнасцю ў сцвярджэнні поглядаў валодае, бясспрэчна, А. Вярцінскі. Поруч з ім М. Арочка называе і П. Макаля, новыя вершы якога прагучалі свежа і важка. З цікавымі вершамі выйшлі на паверку года У. Караткевіч, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Р. Барадулін, А. Грачанікаў, Ю. Свірка, Е. Лось, М. Стральцоў, У. Паўлаў, І. Ралько.

Памяць нашай паэзіі па-ранейшаму прыкавана да Айчыннай вайны — і гэта не проста вогненнае рэха, а голас сучаснасці. Да нашага агульнага рэквіему, што пішацца з году ў год паэтамі ўсіх пакаленняў, важка дадаліся такія творы, як вянок санетаў А. Сербантовіча «Курганы», «Хатынскі рэквіем» Р. Тармолы, «Здымаюць фільм пра вайну» Ю. Свіркі, «Неба абгарэлага крыло» У. Паўлава, як цудоўная «Балада прыкмет» А. Разанава.

Высока ацэньвае дакладчык «Веча славянскіх балад» Я. Сіпакова, ад якіх дыхнула прасторай для думкі, шырынёй мастацкага дыяпазону, культурай мыслення, светаадчування.

Далей М. Арочка гаворыць аб інтымна-пейзажнай альбомнасці, якая ў апошні час пачынае расцвітаць асабліва пышна. Як на ўзор такой «ціхай», бездухоўнай лірыкі ён спасылаецца на некаторыя вершы К. Камейшы, І. Калесніка, Р. Тармолы.

У заключэнне дакладчык спыняецца на творчасці самага маладзейшага пакалення паэтаў, адзначаючы, што іх творчы набытак у мінулым годзе быў даволі важкі.

У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел супрацоўнікі Інстытута літаратуры АН БССР Л. Гарэлік, Я. Шпакоўскі, М. Барсток, паэты А. Вярцінскі, Е. Лось, С. Гаўрусёў, У. Нядзведскі, А. Грачанікаў, Б. Спрынчан, А. Бачыла, М. Аўрамчык. Яны закранулі шырокае кола праблем і пытанняў, якія тычацца справы далейшага развіцця нашай паэзіі, выказалі шэраг канкрэтных заўваг і прапаноў.

У прыватнасці, Л. Гарэлік падкрэсліла, што змястоўнасць і грамадзянскасць паэзіі — рэчы непадзельныя, што яе духоўнасць і інтэлектуальнасць праяўляюцца перш за ўсё ў адчуванні сучаснасці. Яна падтрымала думку дакладчыка аб тым, што трэба рашуча змагацца з праявамі ў паэзіі шэрасці і бездухоўнасці.

— Дакладчык рабіў агляд паэтычных набыткаў года, — гаварыў Я. Шпакоўскі, — пад кутом дзвюх кардынальных праблем — грамадзянскасці і змястоўнасці. І гэта зусім правільна, бо праблемы гэтыя — надзвычай надзённыя. Грамадзянскасць павінна быць душой нашай паэзіі. Аднак бяда ў тым, што ў нас часта грамадзянскасць разумеюць як голую публіцыстыку, рытарычную дэкларацыйнасць. Калі ў паэта ёсць свая канцэпцыя жыцця і чалавека, ён не можа не быць у сваёй творчасці грамадзянінам.

На паэме мінулага года запыніла ўвагу прысутных М. Барсток, адзначыўшы, што пагалоўны зварот паэтаў да тэмы дзяцінства і юнацтва сапраўды трывожны і што з'ява гэтая патрабуе сур'ёзнага асэнсавання і вытлумачэння. Прамоўца гаварыла таксама пра першыя кнігі паэтаў, аб тым, што выходзяць яны з вялікім спазненнем, што аўтары-пачаткоўцы за час падрыхтоўкі першай кніжкі перарастаюць саміх сябе. Па нейкіх незразумелых прычынах, працягвала М. Барсток, у апошнія гады выдавецтва «Беларусь» штораз памяншае выпуск паэтычных зборнікаў. Яна не пагадзілася з дакладчыкам у яго ацэнцы натурфіласофскай лірыкі, заўважыўшы, што і ў гэтым жанры можна выявіць унутраны свет чалавека.

А. Вярцінскі гаварыў аб штогодніку «Дзень паэзіі». Ён выказаў думку, што наспела пара змяніць характар гэтага выдання і ўключаць у яго лепшыя паэтычныя старонкі года, незалежна ад таго, ці былі яны апублікаваны, ці не.

Е. Лось, адзначыўшы карысць падобных абмеркаванняў, прапанавала разнастаіць іх формы — ставіць на разгляд секцыі паэзію таго ці іншага часопіса, асобныя паэтычныя кнігі. Выдавецтва «Беларусь» пачало выпуск серыі «Паэзія народаў СССР», працягвала Е. Лось. Справа гэта добрая і патрэбная, толькі шкада, што кніжкі серыі выдаюцца ў вельмі бедным афармленні.

Аб тым, што творчасць сярэдняга і малодшага пакалення не знаходзіць належнай крытычнай увагі, разглядаецца ў прыватным плане, аб тым, што патрэбны самыя разнастайныя формы крытычных выступленняў, гаварыў А. Грачанікаў.

А. Бачыла прапанаваў вынесці на адно з чарговых пасяджэнняў секцый праблему паэт — кніга — рэдактар з запрашэннем на яго работнікаў выдавецтва.

□

На пасяджэнні была таксама абмеркавана творчасць маладых паэтаў, якія падалі заявы аб прыёме іх у члены Саюза пісьменнікаў — Н. Зверавай, М. Федзюковіча, Я. Крупенькі і А. Разанава.

# СТАНАЎЛЕННЕ РЭЖЫСЁРСКАГА ПОЧЫРКУ

**СПЕКТАКЛІ «НОРА», «КЛОП» І «ПАЎЛІНКА» Ў ПАСТАНОЎЦЫ УЛ. КАРАТКЕВІЧА НА СЦЭНЕ МАГІЛЁЎСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**



Ул. Караткевіч.

**ная далікатнасць вобраза непапраўна трацяць жывыя рысы жывога характару. Затое глыбокае ўражанне пакідае В. Кабатнікава ў ролі фру Лінэ. Разумная засяроджанасць, тонка схаваны трагізм становішча гэтай жанчыны, яе слабая ўсмешка і журботныя вочы — усё гэта вельмі падкупляе. Напэўна, менавіта сцэны Лінэ з Норай на магілёўскай сцэне найбольш блізкія духу ібсенаўскай драмы. Шкада толькі, што галоўная сцэна Лінэ з Крогстадам і па-рэжысёрску, і па-акцёрску зведзена да амаль звычайнага сватання. Саюз гэтых двух пакалечаных і абкрадзеных жыццём людзей — нешта большае, чым проста ўладкаванне асабістага лёсу.**

Вярнуся да выканання ролі Норы. Артыстка Н. Караткевіч у ёй — абаяльная, пластычная, адораная нейкай асаблівай музычнасцю, яна мае ўнутраны рытм жыцця на сцэне. Выбар актрысы на гэтую ролю — адну з найбольш складаных у сусветным рэпертуары — безумоўна ўдалы. Але ў канцы спектакля, калі кумір Норы высакародны Хельмер раптам здраджвае ёй і аказваецца дробным і нікчэмным сябелюбцам, артыстцы яўна не хапае трагічнай сілы. Не таму ж разваліўся «лялечны дом», што выкрыўся падлог Норы: ён і трымаўся на хлусні, ханжастве, крывадушнасці. Не расчараванне, не сум, а бунт, пратэст, непрымірымасць Норы да ўсяго ладу жыцця гэтага дома павінны гучаць у фінале. Глядач разам з Норай павінен убачыць у Хельмеры (і наогул у хельмерах) пэўны тып буржуазнага дзялка. Адсюль і драматычнае прасвятленне гераіні. Яна не толькі пакідае дом мужа, яна, паводле трапнага выказвання Энгельса, робіцца тым «сапраўдным чалавекам», вобразы якіх былі тады ў рэальнай рэчаіснасці Нарвегіі.

**Не ўдалося мастаку М. Волахаву афармленне спектакля. Глухі фанерны павільён. Што гэта? Прэтэнзія на аднаўленне старадаўняга нарвежскага драўлянага інтэр'ера? Кажуць, тэатральны інтэр'ер падобны да партрэтнага жывапісу: ён павінен адлюстроўваць характар і ўнутраны свет людзей, якія ў ім жывуць. Колькі ні ўглядайся ў сумны павільён на магілёўскай сцэне — нічога вобразнага ён у сабе не хавае.**

НАЗАЎТРА ўвечары, перад пачаткам спектакля «Клоп» Маякоўскага, я разгарнуў тэатральную праграму, і мне адразу кінулася ў вочы адна асаблівасць: спачатку ідзе спіс акцёраў і потым ужо — ролі, якія яны выконваюць. Значыць, дзейнымі асобамі нам прапануюць лічыць саміх акцёраў, нашых сучаснікаў, а не персанажаў п'есы. Далей, праз усю праграму, ідзе чырвоная стужка, на …кой напісана: «у спектаклі працуюць». Заўважце, не іграюць, не заняты, як звычайна, а працуюць! Нас нібы адразу пазбаўляюць усякіх ілюзій. Нам хочуць паказаць «пякельную» кухню тэатральнага мастацтва. Зірнуўшы на загадзя адкрытую сцэну, я ўбачыў, што на фоне пераплеценых ліній, якія скіраваны ўгору, пастаўлены толькі пустыя пляцоўкі рознай вышыні, да іх вядуць прыступкі. А камедыя названа Маякоўскім феерычнай. І тут, зразумела, усе надзеі звязаны не з магчымасцямі тэатральнай машынерыі, а з жывымі дзейнымі акцёрамі.

Акцёраў я налічыў 29, роляў — 41. Ды і то, добра ведаючы п'есу, я не далічыўся многіх персанажаў, напэўна, «зарэзаных» рэжысёрам з-за недахопу выканаўцаў.

Цікава, як прымуць і здзейсняць артысты гэтыя незвычайныя ўмовы ігры, якія яўна ідуць насуперак традыцыйнай манеры акцёрскага выканання п'ес?

**Абодва спектаклі пастаўлены адным і тым жа Ул. Караткевічам. Мне стала зразумела, што новы галоўны рэжысёр тэатра звярнуўся да Маякоўскага невыпадкова. Яму захацелася па-добраму ўскалыхнуць калектыў, абудзіць у ім прагу да яркай тэатральнасці, пачуццё асабістай грамадзянскай і акцёрскай адказнасці за ўсё, што адбываецца на сцэне. Усе выратавальныя «лонжы» звычайнага акцёрскага ўжытку зняты, для ўсіх вятроў адкрыты акцёр на голай пляцоўцы — «твори, выдумывай, пробуй!» Менавіта на гэта настройваюць вершаваныя лозунгі Маякоўскага, развешаныя ў зале, менавіта да гэтага заклікаюць удалыя цытаты з сатырычных вершаў паэта, аддадзеныя рэжысёрам невялікай групе вядучых, якія выдатна арганізуюць усю складаную структуру гэтага яркага і своеасаблівага спектакля.**

Чытач ужо напэўна зразумеў — спектакль мне спадабаўся. На першы погляд можа здацца, што рэжысёр зрабіў святатацтва. Ён пераманціраваў п'есу. Гісторыя «былога партыйца, былога рабочага», хама, перараджэнца і абывацеля Прысыпкіна з усім яго нэпманскім акружэннем узнікае перад намі рэтраспектыўна: як бы ў працэсе работы Інстытута чалавечых ажыўленняў з камуністычнай будучыні. І гэта не пагоня рэжысёра за арыгінальнасцю, не псеўданаватарскае какецтва — абавязкова зрабіць усё наадварот. Гэта — сапраўдны сцэнічны пошук, які строга падпарадкаваны яснай рэжысёрскай задуме.

П'еса Маякоўскага, як вядома, распадаецца на дзве часткі. Першая частка — гэта геніяльная фантасмагорыя на тэмы канкрэтнай савецкай рэчаіснасці дваццатых гадоў. Другая частка — гэта ўмоўны «стэрыльны» фон будучага камуністычнага грамадства, на якім так кантрастна і мярзотна выглядаюць два паразіты з мінулага — Прысыпкін і «клопус вульгарыс». І ў літаратурным, і ў тэатральным сэнсе першая частка значна ярчэйшая і глыбейшая. Другая частка часам цяпер выглядае залішне дэкларацыйнай. Неверагодная цяжкасць для рэжысёра — арганічна спалучыць дзве часткі ў стылістычна адзіны спектакль, не губляючы да самага канца сатырычнай завостранасці і публіцыстычнай ваяўнічасці.

**Пачаўшы спектакль з канца п'есы, чаргуючы карціны будучага з карцінамі мінулага, Ул. Караткевіч стварае такое арганічнае адзінства, якому маглі б пазайздросціць апрабіраваныя пастаноўкі гэтай п'есы. Няхай у спектаклі не ўсё раўнацэннае (напрыклад, уведзеныя ў сцэны будучыні прымітыўны робат і павялічаны да памераў талеркі бутафорскі клоп — яўная даніна дрэннаму густу). Але большасць пастановачных эфектаў разлічана на абуджэнне фантазіі гледача, і таму кожная дробная канкрэтызацыя толькі збядняе вобразнае ўспрыманне п'есы.**

З акцёрскіх работ варта асабліва выдзеліць вобразы Прысыпкіна, Баяна і Разаліі Паўлаўны, якія сакавіта, ярка і дакладна ўвасоблены артыстамі Ю. Труханавым, А. Рудаковым і Ю. Гальперынай. Добрае слова хочацца сказаць у адрас чатырох вядучых, артыстаў М. Вайцюка, С. Рус, В. Караткова і Л. Хадзянковай. Яны ўносяць у спектакль сапраўдны камсамольскі запал — гэта славутая лёгкая кавалерыя дваццатых гадоў. І такія яны сучасныя, што мы адразу разумеем рэжысёрскую задуму: усё лепшае з мінулага і сённяшняга краіны дарагое нам і будзе жыць і ў будучыні. Рэжысёр у адрозненне ад дырыжора ў час спектакля асуджан на пакуту неўмяшання. Ён не можа пры дапамозе дырыжорскай палачкі ні паскорыць, ні замарудзіць тэмп, ні кінуць грозным вокам у бок музыканта, які ўзяў фальшывую ноту. А тут чатыры вядучыя сталі як бы дырыжорамі спектакля, паўнамоцнымі прадстаўнікамі рэжысёра, якія актыўна ўмешваюцца ў ход дзеяння, кіруюць настроем відовішча, паспяваючы пры гэтым сыграць яшчэ па чатыры ролі.

**Не, я павінен прызнацца, што зусім не ўмею крытыкаваць спектаклі, якія спадабаліся мне. Мною авалодвае пачуццё захаплення і ўдзячнасці яго стваральнікам, і я, магчыма, дзе-нідзе перабольшваю. Але поспех спектакля «Клоп» на магілёўскай сцэне здаецца мне прынцыпова важным. Мы добра ведаем, што на сцэне любога тэатра можа з'явіцца вельмі ўдалы спектакль. Але гэта часам толькі поспех у межах аднаго спектакля. Цяжэй дасягнуць агульнага творчага ўздыму ў межах тэатра ў цэлым. Менавіта гэтага, мне здаецца, і дасягнуў малады рэжысёр Ул. Караткевіч спектаклем «Клоп».**

ЯШЧЭ БОЛЬШ я ў гэтым пераканаўся на трэці вечар, калі глядзеў спектакль «Паўлінка» Янкі Купалы. Рускі тэатр у Магілёве іграе гэтую класічную камедыю Купалы на беларускай мове. Кажуць, што выканаўца галоўнай ролі Н. Караткевіч загаварыла на сцэне па-беларуску ўпершыню ў жыцці. Не ведаю, ці то кансультант па мове Андрэй Каляда валодае нейкімі чарадзейнымі арфаэпічнымі ключамі, ці то сама актрыса арганічна адчула мелодыку беларускага вымаўлення. Толькі мне здалося, што менавіта любоўныя адносіны да беларускага слова памаглі актрысе раскрыць паэзію, чысціню, гарэзлівую непасрэднасць купалаўскай Паўлінкі. Атрымаўся характар глыбокі і сапраўды нацыянальны.

Рэжысёр не імкнуўся да аблегчанай камедыйнасці. Ён глыбока раскрывае сапраўдны драматызм становішча маладой дзяўчыны ў карыслівай сям'і засцянковага шляхцюка. Так, яна хітраватая і спрытная, па-камедыйнаму вострая і іранічная, яна добра спявае і танцуе, яна з захапленнем разыгрывае навязанага ёй жаніха, яна ўся свеціцца і іскрыцца ў сцэнах са сваім крыху сарамлівым каханым. Ідучы за Купалам, тэатр дае трагічны фінал — арышт настаўніка Сарокі і гора Паўлінкі, якая нібы праходзіць праз полымя грамадзянскага выпрабавання.

**У спектаклі дэманструюць высокае майстэрства старажылы тэатра С. Бульчык, Ю. Гальперына, Н. Фядзяева і А. Яфрэменка. Сцяпан Крыніцкі і яго жонка Альжбета, Пранцысь Пустарэвіч і яго жонка Агата — гэта цудоўны квартэт у спектаклі. Акцёры іграюць лёгка, у добрай імправізацыйнай манеры, з нязгасным запалам народнага гумару, з вялікай творчай аддачай. Дзве цэнтральныя ролі ў гэтым спектаклі іграюць дэбютанты — Л. Лабуць і А. Гаманюк. Скажу адразу — дэбют удалы. Вобраз маладога настаўніка Сарокі не надзелены ў артыста А. Лабуця нейкай выключнасцю, псеўдагераічнай рэвалюцыйнасцю. Разам з рэжысёрам спектакля малады акцёр паспяхова пераадольвае некаторую дыдактычнасць і пасіўнасць гэтага персанажа. Пра Быкоўскага, якім яго паказаў А. Гаманюк, газета «Літаратура і мастацтва» падрабязна пісала 3-га снежня 1971 года.**

Рэжысёр Ул. Караткевіч і мастак М. Волахаў сістэмай блакітных цюляў, некалькімі беластволымі бярозамі і скупым архітэктурным намёкам на дом Крыніцкіх ствараюць вельмі дакладную і паэтычную атмасферу спектакля, пазбягаючы бытавой прыземленасці і лубачнай стылізацыі. Добра распрацаваны і цікава пастаўлены рэжысёрамі этнаграфічныя сцэны. І песні, і танцы, і куплеты арганічна працягваюць дзеянне п'есы, не ператвараючыся ў асобныя канцэртныя нумары. Мне думаецца, што спектакль «Паўлінка» на магілёўскай сцэне — гэта сур'ёзная з'ява сучаснага нацыянальнага беларускага тэатральнага мастацтва.

ТРЫ СПЕКТАКЛІ... Разумею, рабіць канчатковыя высновы тут падстаў не так многа. І ўсё ж шчыра скажу, што і гэтыя тры вечары пераканалі мяне, што на чале тэатра стаў няўрымслівы шукальнік, здольны аб'яднаць калектыў яснай рэжысёрскай задумай і захапіць сваім мастакоўскім бачаннем спектакля. Зычу яму далейшых творчых паглыбленняў у не менш складаныя праблемы нашага мастацтва і патрабавальных адносін да сябе. Тады на магілёўскай сцэне часцей будуць адбывацца святы, без якіх няма сэнсу і ў будзённых рэпетыцыях. Мабыць, Ул. Караткевіч у такім ключы і збіраецца працаваць далей.

С. КАЗІМІРОЎСКІ,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, галоўны рэжысёр Беларускага тэатра імя Я. Коласа.

---

знайсці экземпляр «Старой прысказкі» (гэта — новы варыянт вядомага нам «Дзядзькі Антона»). Кніжка надрукавана ў 1887 г. у Львове Кляменціем Гучкоўскім.

Знаходка вельмі цікавая. Яна ўзбагачае нашы звесткі аб пашырэнні беларускага друкаванага слова ў XIX ст. Забароненае ў сябе на радзіме, яно знаходзіла дарогу ў свет у розных месцах за межамі Расійскай імперыі. Успомнім, што некалькі пазней, у 90-я гады XIX ст., Францішак Багушэвіч друкаваў свае зборнікі таксама за мяжой.

Са звесткамі аб «Старой прысказцы» я ўжо сустракаўся ў чэрвені 1970 г. у рукапісным аддзеле славутай Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве. У бібліяграфічных матэрыялах вядомага польскага этнографа Жэготы Паўлі (1814—1895) я знайшоў такую інфармацыю: «Старая прысказка (аповесць прозай на беларускай мове лацінскімі літарамі), Стараннем Кляменція Гучковского. Львів «Друкарня польская» 1887 80 стар. 1-24 (канца не хапае). Гэта як быццам перадрукавана з выдання, зробленага ў Мінску» (Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі, 5386, т. I, стар. 132, адваротны бок).

Знаходка заінтрыгавала мяне, і я пачаў шукаць кнігу ў каталогах, але нідзе не знайшоў. Тады я звярнуўся да фундаментальнай бібліяграфіі К. Эстрэйхера, але і там не было ніякіх слядоў. Не дапамагла мне і грунтоўная «Галіцка-руская бібліяграфія» Івана Лявіцкага, хоць у ёй і павінны былі называцца ўсе выданні, што пабачылі свет на тэрыторыі Галіцыі ў той перыяд. Перад выездам дадому я паспеў яшчэ звярнуцца да прафесара Кароля Эстрэйхера, буйнейшага спецыяліста па пытаннях бібліяграфіі польскай літаратуры. Ён аднёсся да мяне вельмі ветліва, сам зацікавіўся гэтай справай, але не змог мне дапамагчы.

Знойдзены ў рукапісах Жэготы Паўлі запіс мае для нас значную каштоўнасць: ён скіроўвае ўвагу даследчыкаў на далейшыя пошукі новых варыянтаў і новых выданняў «Старой прысказкі». Гэты твор, надрукаваны ў 1887 годзе стараннем К. Гучкоўскага, не паспеў трапіць не толькі ў бібліятэкі, але нават і ў бібліяграфічныя даведнікі. І тым не менш нейкія экземпляры змаглі аказацца за межамі друкарні, бо інакш якім бы чынам з кнігай мог пазнаёміцца Жэгота Паўлі, які ў той час (пачынаючы з 1872 г. і да канца жыцця) працаваў у Ягелонскай бібліятэцы.

Узнікае пытанне: ці не захоўваецца ў архівах «Друкарні польскай» той экземпляр, з якога «Старая прысказка» была перадрукавана (ці нават перакладзена)? І ці сапраўды папярэдняе выданне кнігі было зроблена ў Мінску? Адказ дадуць новыя архіўныя пошукі.

Ул. КАЗБЯРУК.

# ЦЫРК СОНЕЧНАЙ ГРУЗІІ





На манежы Мінскага цырка выступае заслужаны калектыў «Цырк Грузіі». У праграме артыстаў — паветраныя гімнасты, акрабаты-скакуны, баланс на дроце, эквілібрысты на матацыклах, музычныя эксцэнтрыкі, дрэсіраваныя коні і поні і многа іншых нумароў.

На гэтых здымках вы бачыце выступленні заслужанай артысткі Грузінскай ССР Гурам Гарсеванішвілі (акрабатычны эцюд) і групу клоунаў пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Грузінскай ССР Аляксандра Тэдзіашвілі.

Фота Ул. КРУКА.

### ВЫПРАЎЛЕННЕ ПАМЫЛКІ

У газеце «Літаратура і мастацтва» № 5 за 4 лютага г.г. на стар. 2 у артыкуле «Новыя перспектывы» другі абзац трэба чытаць:

«Партыя арыентуе крытыку на высокія і адказныя справы, на рашучую актывізацыю творчай працы, ставіць перад ёй сур'ёзныя патрабаванні. Крытыка павінна больш прынцыпова аналізаваць сучасны літаратурны працэс, больш настойліва праводзіць лінію партыі ў галіне мастацкай творчасці, страсна прапагандаваць і выяўляць у літаратуры камуністычныя ідэалы, змагацца з ідэалагічнымі канцэпцыямі, варожымі рэвалюцыйным імкненням сучаснасці, суадносіць з'явы літаратуры з жыццём на аснове глыбокага ведання савецкай рэчаіснасці, дабівацца высокага ідэйна-эстэтычнага ўзроўню ўсяго мастацтва, закліканага служыць народу, быць непрымірымай да фальшу, да браку ў мастацкай творчасці, адкідваць «сяброўскія» і групавыя разлікі ў ацэнках значнасці мастацкага твора, умела спалучаць сацыяльны аналіз з эстэтычнымі крытэрыямі, патрабавальнасць з беражлівымі адносінамі да таленту. Пра гэта гаварылі ўсе, хто выступаў з трыбуны пленума...»

З БЛАКНОТА ЖУРНАЛІСТА

М. ЗАМСКІ

# ЖОРСТКАСЦЬ

Чалавек быў ужо немалады і хворы. Аднойчы ён зірнуў у акно і ўбачыў, што ў горад прыйшла вясна. Чалавек паклікаў свайго сабаку, і яны пайшлі гуляць па вуліцах. Было першае ў гэтым годзе высокае блакітнае неба і першыя лужыны, а ў кожнай лужыне купалася сваё сонца.

Чалавек ішоў з сабакам па горадзе і ўсміхаўся сонцу, бо якога б ты ні быў веку, вясна для цябе заўсёды вясна, калі нават шэры, непрыкметны верабей здаецца не расказаць якой прыгожай птушкай.

Чалавек з сабакам тым часам выйшлі на бераг ракі, якая ў гэтым горадзе вялікая, бы мора. Чалавек спыніўся ля парапета і задумліва глядзеў на раку, па якой плылі шэра-белыя крыгі — апошні напамінак аб зіме.

З задуменнасці яго вывеў жаласны сабачы віск. Чалавек уздрыгнуў, павярнуў галаву і ўбачыў, што яго сабаку — ласкавага пудзеля — два маладыя бэйбусы з рогатам падфутбольваюць, каб скінуць у раку.

— Што вы робіце?! — закрычаў чалавек і пабег да сабакі. Але не паспеў. Сабака ўжо ляцеў у раку. І тады здарылася такое, чаго не чакалі ні бэйбусы, ні людзі, што праходзілі міма. Чалавек, не раздумваючы, пераскочыў праз парапет і кінуўся ў ваду ўслед за сабакам. На шчасце, там было не глыбока. Праз якія пяць хвілін чалавека і яго сабаку выцягнулі. Выклікалі хуткую дапамогу.

А праз два дні чалавек памёр. Казалі — ад шоку — не вытрымала хворае сэрца...

Здарылася ўсё гэта ў Хабараўску два гады таму, здарылася з таленавітым, любімым хабараўчанамі акцёрам. Праводзілі яго ў апошні шлях сотні людзей...

Гэту гісторыю я пачуў зусім нядаўна. Нас было ў пакоі некалькі чалавек, і ўсе мы доўга маўчалі. І раптам адзін з прысутных, як быццам, не злы, далікатны чалавек, паціснуў плячыма і сказаў:

— А ўсё ж дзівак-чалавек. Навошта было яму скакаць у Амур, хіба ён не ведаў, што сабакі выдатна плаваюць?

І фраза гэта паласнула па сэрцы. Бо была яна кашчуннай. Той незнаёмы акцёр паўставаў чалавекам вялікага сэрца, сэрца, адкрытага толькі дабраце. Такія людзі, ідучы на дапамогу, не ўзважваюць «за» і «супраць».

І каб неяк разрадзіць атмасферу ў пакоі, нехта з нас спытаў расказчыцу, як пакаралі нягоднікаў, якія кінулі сабаку ў раку. Яна не ведала. Тады мы пачалі гадаць. Самы наіўны сярод нас сказаў, што іх, ён упэўнены, судзілі, як забойцаў. А самы цвярозы — што больш, чым па пятнаццаць сутак за дробнае хуліганства, гаворка і не ішла...

А цяпер пра гісторыю, якая прымусіла мяне ўзяцца за пяро. Нядзельным восеньскім днём малады пісьменнік Б. і яго сябра — рабочы аднаго з мінскіх заводаў, завочнік універсітэта П. гулялі па вуліцы, калі раптам пачулі ззаду загад: «Узяць!» Не паспелі яны ўцяміць, што да чаго, як на грудзях П. павіс вялізны баксёр. З хвіліну сабака глядзеў у вочы перапалоханаму чалавеку, потым, схапіўшы зубамі папку, якую той трымаў пад пахай, кінуўся да гаспадара. На паўдарозе сабака выпусціў ношу з зубоў. П. падабраў папку, але зноў пачулася: «Узяць!» — і зноў сабака кідаецца на чалавека, рве зубамі плашч, папку...

Б. падбег да маладога чалавека, які падаваў загады, і пачаў прасіць, каб той стрымаў сабаку. У адказ пачулася брудная лаянка. Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б да незнаёмага не падышоў нейкі чалавек, відаць, прыяцель, і не павёў яго з сабой...

Паміж гэтымі дзвюма гісторыямі, як быццам, няма нічога агульнага. Тут, у нас, як бачыце, усё абышлося, хаця магло скончыцца трагедыяй (я добра ведаю пісьменніка і яго сябра — абодва людзі далёка не волатаўскага здароўя). І ўсё ж унутраная сувязь існуе. І там, і тут адна першапрычына — жорсткасць. Жорсткасць, не справакаваная нічым, не падагрэтая, жорсткасць ні з таго, ні з сяго, жорсткасць у выглядзе забавы, і таму яшчэ больш страшная.

Гаспадара баксёра адшукалі. З участковым Першамайскага аддзела міліцыі Трацяковым і адным з пацярпелых, пасля рабочага дня ідзём да яго ў госці. Урбановіч Мікалай Антонавіч, 1945 года нараджэння, рабочы Мінскага радыёзавода. Ладны дзяцюк з нагола стрыжанай галавой і мясістым тварам дэманструе шчырае здзіўленне з повада нашага візіту. Цкаваў людзей сабакам? Не можа такога быць. У колькі гадзін гэта было? У чатыры? Дык ён жа на рабоце ў гэты час. А, у нядзелю... Усё роўна, вы, даражэнькія, капітальна (так і гаворыць — капітальна) памыляецеся. І толькі, прыціснуты да сцяны, скрозь зубы мармыча, што калі яго пазналі, дык можа гэта і ён, хаця такога выпадку не помніць...

Канчаткова ўспамінае ўсё Урбановіч назаўтра, у аддзеле міліцыі. Тут яго, аказваецца, добра ведаюць — быў затрыманы аднойчы за бойку.

— Ну, а сабака дзе? — цікавіцца адзін з работнікаў.

— Прадаў. Выхаваў і прадаў...

— Выхаваў... Пасля твайго выхавання сабаку трэба будзе перавыхоўваць... — заўважае ўчастковы.

Я гляджу на Урбановіча. Які ён тут лагодны і памяркоўны. А што там, за гэтымі вачыма? Пра што думае зараз? Раскайваецца? Ды не, толькі спалохаўся. Ён гатовы зараз біць паклоны і вінавація. Каб толькі гэтым прыводам у міліцыю скончылася. Штраф? Так, гатовы заплаціць штраф. І кошт плашча пацярпелага таксама аплоціць. Ну, а што спалохаў, траўміраваў людзей, дык гатовы прасіць прабачэння. Хай даруюць яму, ён не хацеў...

Я слухаю яго і не магу пазбавіцца адной думкі. Адкуль гэтая жорсткасць? Звычайны ж хлопец. Пасляваенны. З дзесяцігодкай за плячыма. Працуе, добра зарабляе. Вунь двухпакаёвую кааператыўную кватэру пабудаваў...

Ды яны, такія, усе звычайныя. Я хачу сказаць — без усякіх псіхічных адхіленняў. Поўная «раскаванасць». Робіцца тое, што толькі што прыйшло ў галаву. А ў галаву прыходзяць розныя цікавыя думкі, накшталт таго, што вунь ідзе чалавек пры гальштуку, дык трэба даць яму па шыі. А той без капелюша, дык садануць, каб не фарсіў.

Неяк у мінскім парку імя Чалюскінцаў пабілі супрацоўніка аднаго са сталічных выдавецтваў. Ён спакойна ішоў па сцежцы, як раптам з-за куста выскачыў хлапчына і накінуўся на яго з кулакамі. Хулігана ўдалося затрымаць. У міліцыі пацярпелы ўвесь час дапытваўся ў хлопца, за што той накінуўся на яго. Бо быць пабітым немаведама за што, відаць, удвая крыўдна. Той растлумачыў усё вельмі проста — ён, бачыце, з хаўруснікамі гуляў на паркавым лужку ў карты, дык той, хто прайграў, павінен быў пабіць першага сустрэчнага.

Нядаўна маладога хлопца — студэнта на Маскоўскай вуліцы пабілі ледзь не да паўсмерці. Двое незнаёмых мальцоў спачатку ўдарылі яго нечым жалезным па галаве, а калі студэнт паваліўся, пачалі збіваць нагамі. У міліцыі нягоднікі спакойна растлумачылі, што хацелі паглядзець, як б'е новы касцет...

Адзін з маіх знаёмых ішоў надвячоркам па скверы, што на Камсамольскай вуліцы. Ён абагнаў нейкага чалавека і выпадкова лёгенька зачапіў яго рукавом. Тут жа папрасіў прабачэння і ...больш нічога не помніць, бо ачуняў у бальніцы з цяжкай траўмай галавы. Дактары ветліва растлумачылі, што касцет, якім яго ўдарылі, трапіў адносна ўдала, бо калі б некалькі сантыметраў убок, то...

Прыблізна тое самае здарылася з адным беларускім паэтам.

За ўсім гэтым «фактажом» я не звяртаўся ў органы міліцыі ці пракуратуры. Гэта ўсё здарылася з маімі знаёмымі, здарылася, так сказаць, у даволі вузкім коле. Як бачыце, верагоднасць стаць аб'ектам гвалту не такая ўжо малая. Калі б падключыць сюды ЭВМ, дык можна было зусім дакладна вызначыць, калі на цябе нацкуюць сабаку, ці проста паб'юць. Гэта ўжо жарт, але жарт зусім невясёлы...

Жорсткасць. Каб можна было яе паглядзець у разрэзе? Скажам, як кветачку. Вось гэта пялёсткі, а гэта тычынкі, а гэта карашок. Карашок, карэнні... Якія яны, карэнні той жорсткасці? Нянавісць? Да каго? Некалі за царом вучні рэальных вучылішчаў білі гімназістаў, дык там зразумела,

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# МІНАЛІ ГАДЫ...

Выдадзеная летась хрэстаматыя «Беларуская літаратура XIX стагоддзя» пазнаёміла чытачоў з многімі творамі, знойдзенымі ў выніку архіўных і бібліяграфічных росшукаў. Новае жыццё на старонках кнігі атрымалі творы, якія пасля першай публікацыі ў перыёдыцы доўга не траплялі на вока даследчыкаў. Упершыню ў выданне такога тыпу ўключаны і пераклад з польскай мовы верша «Прадкі», зроблены Генрыкам Татурам у 1897 годзе. Аўтарам жа арыгінальнага тэксту «Прадак» як у хрэстаматыі, так і ў часопісе «Крывіч» (1927, № 12), адкуль быў узяты гэты верш, называецца вядомы польска-беларускі паэт сярэдзіны мінулага стагоддзя Уладыслаў Сыракомля, што не адпавядае праўдзе.

У 1845 годзе ў альманаху «Рубон» (т. 5) быў надрукаваны цыкл вершаў Яна Чачота «Песенькі». Сярод іх — твор пад назвай «Prząśniczka», зместу якога якраз і адпавядае пераклад Г. Татура. Для нагляднасці параўнаем першыя строфы.

Я. Чачот пачынае:

U prząśniczki siedzą  
Jak róże dzieweczki,  
Przędą sobie, przędą  
Jedwabne niteczki.

Kręć się, kręć, wrzeciono!  
Wić się tobie, wić,  
Ta pamięta lepiej,  
Czyja dłuższa nić.

У Г. Татура чытаем:

З праслічкамі сядзяць дзеванькі  
як краскі,  
Прадуць сабе, прадуць слуцкія паяскі.  
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!  
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй.

Не менш дакладна супадаюць і ўсе астатнія радкі. У Сыракомлі ж няма і двух радкоў, якія ў нечым нагадвалі б «Прадкі». Значыць, на беларускую мову быў перакладзены чачотаўскі верш.

Чаму ж тады аўтарства польскага тэксту Г. Татур не пакінуў за Я. Чачотам? Наўмысная містыфікацыя? Наўрад... Прыпісанае Сыракомлю аўтарства, а таксама інакшае, чым у арыгінале, строфабудаванне, якое ўжыў перакладчык, свед-



ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»

**Ганс-Хрысціян Андэрсен. Дзікія лебедзі.** Казка. Мастак С. Кавалёў. 1971 г. Тыраж 50000 экз. 24 стар. Цана 36 кап.

**Беларускія народныя песні** (для хору), том 1. Сабраў і ўпарадкаваў Рыгор Шырма. Мастак С. Кавалёў. 1971 г. Тыраж 2000 экз. 328 стар. Цана 3 руб. 62 кап.

**В. Вітка. Чытанка-маляванка.** Мастак А. Луцэвіч. 1971 г. Тыраж 50000 экз. 96 стар. Цана 1 руб. 15 кап.

**А. Вольскі.** Рагатка. Выбранае. Мастакі С. Кавалёў і У. Рудакоў. 1971 г. Тыраж 50000 экз. 64 стар. Цана 34 кап.

**М. Ганчароў. Карусель.** Вершы і казкі. Мастак С. Кавалёў. На рускай мове. 1971 г. Тыраж 200000 экз. 20 стар. Цана 23 кап.

**Міхась Лісоўскі і Рыгор Барадулін.** Няўрокам кажучы... Сяброўскія шаржы, эпіграмы. Макет і афармленне П. Драчова. 1971 г. Тыраж 2000 экз. 80 стар. Цана 2 руб. 27 кап.

**М. Садковіч. Аповесць аб ясным Стахоры. Чалавек у тумане. Мадам Любоў. Выбраныя творы.** Мастак В. Шаранговіч. На рускай мове. 1971 г. Тыраж 100000 экз. 544 стар. Цана 1 руб. 04 кап.

**Час і людзі.** (Серыя «Па законах сумлення і гонару»). Зборнік. На рускай мове. 1972 г. Тыраж 8000 экз. 104 стар. Цана 19 кап.

ВЫДАВЕЦТВА «НАРОДНАЯ АСВЕТА»

**М. Я. Салтыкоў-Шчадрын. Паны Галаўлёвы.** Раман («Школьная бібліятэка»). Вокладка мастака М. Веціка. На рускай мове. 1971 г. Тыраж 200000 экз. 304 стар. Цана 59 кап.

**Л. Падвойскі. З Леніным у аўтамабілі.** Апавяданні. Мастак Г. Скамарохаў. 1971 г. Тыраж 21.000 экз. 40 стар. Цана 11 кап.

